— *Каго любіш?*
— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

16 ЖНІЎНЯ 1996 г. № 33 (3857) Кошт 2 500 руб.





# ГЭТА "ЗОРАЧКІ" НАШЫ!







*Міжнародны конкурс у Варне для артыстаў балета тое ж, што Алімпіяда для спартсменаў. Сёлета 120 спаборнікаў было тут у малодшай узроставай групе (да 19 гадоў): 40 чалавек — з Балгарыі, 22 — з Украіны, 15 — з Расіі, па 10 — з Японіі, Францыі, Бразіліі... Упершыню была прадстаўлена Беларусь — навучэнкамі харэаграфічнага каледжа Ірынай Цымбал і Астай Базявічутэ. У III тур выйшлі чацвёра, усе сталі лаўрэатамі: залаты медаль "паехаў" у ЗША, "срэбра" — на Кубу, а "бронзай" узнагародзілі абедзвюх нашых дзяўчат. Іх педагог Галіна Сінельнікава адзначыла, што на прадстаўнічым конкурсе ўсіх уразіла іх высокая культура, музычнасць. І калі б не траўма, з якой Іра адважылася ехаць на конкурс, яна паказала б ускладнёную праграму і магла прэтэндаваць на "золата". Апроч класікі, конкурсанты рыхтавалі сучасныя нумары, для пастановкі якіх Г. Сінельнікава абрала музыку М. Радзівіла і Я. Паплаўскага. "Срэбра" ў старэйшай узроставай групе заваяваў выпускнік Беларускага харэаграфічнага каледжа Андрэй Іваноў. Маральна падтрымліваў земляком Валянцін Елізар'еў — наш майстар быў чыннікам журы.*

**С. Б.**

## ДУША "ХАРОШАК"

**У мінскім Доме афіцэраў адбыўся творчы вечар народнай артысткі Беларусі Валянціны Гаявой. Віншавалі і з юбілеем, і з 40-годдзем творчай дзейнасці. Віншавалі калегі, сябры, прыхільнікі таленту. Віншавалі "Харошкі" — знаны сёння ва ўсім свеце Дзяржаўны фальклорна-харэаграфічны ансамбль, з якім Валянціна Гаявая — ад першых дзён яго стварэння... Мастацкага кіраўніка "Харошак" павіншаваў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. І неўзабаве падпісаў указ аб узнагароджанні Валянціны Іванаўны Гаявой медалём Францыска Скарыны.**

**С. Б.**

## НАВАГРАДАК, ЛЮБЧА, ЛАЎРЫШАВА...

**Дзень беларускага пісьменства і друку, як вядома, у нашай краіне адзначаецца ў першую нядзелю верасня. Сёлета ён прыпадае акурат на першае чысло. Само ж свята будзе праходзіць трэці раз. Мяркуецца, што напярэдадні яго, ад Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску возьме старт спецыяльная навукова-творчая экспедыцыя, што даставіць Нязгасны агонь, запалены ля труны Гасподняй на Навагрудчыну, дзе і пройдуць асноўныя мерапрыемствы. Тым самым Навагрудак прымае эстафету ад старажытных Полацка і Турава, дзе праводзіліся папярэднія Дні беларускага пісьменства і друку.**

**У праграме свята яшчэ магчымы і пэўныя ўдакладненні, але паводле планаў сёлетняга аргкамітэта, 1 верасня ў Навагрудку мяркуецца правесці гісторыка-мастацкае шэсце, арганізаваць кніжны кірмаш, паказаць спектакль "Цар Максіміліян", а таксама наладзіць выступленні як беларускіх артыстаў, так і гасцей з іншых краін. Вялікі канцэрт на Замкавай гары і стане апафеозам мерапрыемстваў.**

**Не будзе абыдзены ўвагай і пасёлак Любча. Тут, дзе калісь працавала адна з першых на тэрыторыі нашай дзяржавы друкарняў, урачыстасці пройдуць пад дэвізам "З мінулага ў сёння і з сёння ў будучыню вядзе нас друкаванае слова". А яшчэ госці наведаюцца ў вёску Лаўрышава, у якой некалі нарадзілася славутае Лаўрышаўскае Евангелле. Факсіміле яго, а само яно, дарэчы, цяпер знаходзіцца ў Кракаве, будзе перададзена на радзіму.**

## ЗАЗІРНЁМ І Ў ГОД НАСТУПНЫ

**А зрабіць гэта можна дзякуючы адрыўному календару на 1997 год, які ўжо выйшаў у выдавецтве "Беларусь". Застаецца толькі парадавацца, што ў параўнанні з годам мінулым сёлета гэта зроблена своечасова і, думаецца, перавагу "Роднаму краю" (а так, як вядома, і называецца гэтае выданне) аддадуць многія з тых, хто звычайна карыстаецца рускамоўнымі календарамі.**

**Рэдактары-складальнікі Валянціна Балвановіч, Святлана Панько, Валянціна Кудзіна паклапаціліся, каб задаволіць самыя розныя густы. Пры гэтым захоўваецца тое лепшае, што дазволіла "Роднаму краю" вызначыць свой твар. Прынамсі, указваюцца узыход і заход Сонца, даўжыня дня, фазы Месяца. Падаюцца багатыя і разнастайныя звесткі па гісторыі, культуры і прыродзе Беларусі, можна даведацца, як лепей весці хатнюю гаспадарку, прыводзяцца рэцэпты народнай медыцыны, ёсць парады ўрача, а таксама прыадкрываюцца асобныя сакрэты для садаводаў і агароднікаў. Знайшлося месца анекдотам, юрыдычным даведкам, сустрэнеш на старонках "Роднага краю" і гараскоп. І, канечне ж, не абыдзены ўвагай юбілейныя і памятныя даты 1997 года. А будзем адзначаць мы — 115-годдзе з дня нараджэння народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа, 110-годдзе з дня нараджэння Ц. Гартнага, А. Гаруна. Спаўняюцца 440 гадоў з дня нараджэння выдатнага дзяржаўнага дзеяча Л. Сапегі, 150-годдзе — з дня нараджэння Я. Наркевіча-Ёдкі, які ў вынаходніцтве радыё апярэдзіў А. Папова...**

**Дык зазірніце ў год наступны, а для гэтага паспяшайцеся набыць каляндар "Родны край"!**

*Прэзентацыя*

# БЫЎ, ЁСЦЬ І БУДЗЕ

Дасведчаны чытач, пэўна, здагадаўся, што ў загаловак вынесена крыху зменeная назва апошняй кнігі Уладзіміра Караткевіча "Быў. Ёсць. Буду". Аднак гэтым разам гаворка зусім не пра Уладзіміра Сямёнавіча, а пра яшчэ аднаго найвыдатнейшага беларуса — Браніслава Тарашкевіча. Да асэнсавання яго надзіва багатага, шматграннага жыцця, а таксама яго кіпучай рэвалюцыйнай дзейнасці, прасякнутай найперш клопатам аб нацыянальным разняволенні беларускага народа, даследчыкі па-сапраўднаму толькі падступаюцца. І тут больш пакуль зроблена ў суседняй Польшчы. Дзякуючы гэтаму, ужо цяпер можна прыйсці да высновы: "У працэсе выяўлення ўсё новых матэрыялаў з архіваў НКУС яшчэ многа чаго даведаемся. Але з усяго таго, што ведаем ці, можа, яшчэ даведаемся пра турэмную долю Тарашкевіча перад яго расстрэлам, — нішто не можа прынізіць яго вялікай ролі ў ахвярным змаганні за адраджэнне Беларусі і развіцці яе нацыянальнай культуры. Ён быў адным з найбольш выдатных сыноў беларускага народа ў XX веку. Памяць аб ім ніколі не згасне — ён быў, ёсць і будзе". Менавіта гэтымі словамі завяршае сваю прадмову да кнігі "Слова пра Браніслава Тарашкевіча", што нядаўна выпушчана выдавецтвам "Мастацкая літаратура", яе аўтар, вядомы польскі гісторык і публіцыст, у мінулым актыўны ўдзельнік камуністычнага руху ў даваеннай Польшчы і Заходняй Беларусі Аляксандра Бергман. Прадмова датавана снежнем 1992 года. Акурат тады рыхтавалася гэтае важнае выданне. На жаль, па розных прычынах выпуск кнігі затрымаўся. Не лішне для параўнання сказаць, што ў Варшаве яна выйшла яшчэ ў 1977 годзе. Ды, нездарма кажуць: лепш позна, чым ніколі...

Прэзентацыя кнігі А. Бергман адбылася днямі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе ўжо стала традыцыяй праводзіць прэм'еры найбольш значных кніг. Найбольшая заслуга ў гэтым — дырэктара бібліятэкі Г. Алейнік. Гэтым разам Галіна Мікалаеўна арганізоўвала згаданае мерапрыемства разам з ініцыятарам яго правядзення Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку і выдавецтвам "Мастацкая літаратура".

Прэзентацыю адкрыў галоўны рэдактар "Мастацкай літаратуры" С. Андраюк. Коратка расказаўшы пра структуру выдання, Серафім Антонавіч адказаў на пытанне, якое сам і паставіў перад прысутнымі: "Чаму менавіта гэтую кнігу было вырашана сёння прэзентаваць". Першая прычына ў тым, што яна адно з тых выданняў, якія сведчаць аб агульнасці гістарычных лёсаў беларускага і польскага народаў, нагадваюць пра супольнасці іх духоўнага жыцця, агульнасць культур. Гэтая духоўнасць доўгі час праяўлялася і ў выдавецкіх узаемасувязях. Былі часы, калі "Мастацкая літаратура" штогод выпускала па некалькі кніг польскіх аўтараў, адпаведна беларускія кнігі рэгулярна выходзілі ў Польшчы. На жаль, цяпер колькасць перакладных выданняў зменшылася па ўсіх дзяржаўных выдавецтвах. Тым больш не павінны знаходзіцца па-за ўвагай кнігі, падобныя "Слову пра Браніслава Тарашкевіча". Другая прычына ў тым, што сёння праяўляецца вялікая ўвага і цікавасць да нацыянальнай гісторыі, да найбольш важных і значных падзей яе, імкненне як мага больш аб'ектыўна, не палітызавана, а ўсебакова асэнсаваць іх. Нарэшце, сама постаць Браніслава Тарашкевіча, — вучонага, мовазнаўцы, грамадзяніна, грамадскага і культурнага дзеяча, патрыёта-інтэрнацыяналіста, чалавека гераічнага, драматычнага, трагічнага лёсу, які дзеля адраджэння Бацькаўшчыны аддаў усё, прыцягвае да сябе ўвагу. Падобныя людзі сёння для нас з'яўляюцца прыкладам, асабліва натхняюць яны моладзь. Нарэшце, не будзем забываць і пра самога аўтара кнігі, пра Аляксандру Бергман, працягваў С. Андраюк. Яна таксама асоба гераічная і яна ж мэтанакіраваны, па-добраму апантаны даследчык. Працуючы над кнігай пра Б. Тарашкевіча А. Бергман выкарыстала ўсе матэрыялы, што тычацца яго жыцця і рэвалюцыйнай дзейнасці, якія можна было знайсці ў архівах Варшавы, Вільнюса, Масквы, Мінска, каб стварыць як мага больш аб'ектыўны і праўдзівы яго партрэт. Як зазначыў Серафім Антонавіч, дзеля ўвекавечвання памяці Б. Тарашкевіча і праводзіцца прэзентацыя кнігі. Праводзіцца, каб яшчэ раз нагадаць, што Б. Тарашкевіч быў, ёсць і будзе. Яго прысутнасць у нацыянальным жыцці пастаянная.

Слова да чытача ў кнізе пра Б. Тарашкевіча напісаў вядомы знаўца сацыяльна-палітычнага і літаратурна-культурнага жыцця Заходняй Беларусі А. Ліс. Арсень Сяргеевіч, выступаючы перад прысутнымі, адзначыў тую добрую захопленасць жыццём Б. Тарашкевіча з боку А. Бергман. Менавіта дзякуючы гэтаму ёй і ўдалося так праўдзіва расказаць пра аднаго з самых выдатных беларускіх адраджэнцаў. А. Ліс нагадаў пра тое, якую вялікую ролю выканала "Граматыка беларускай мовы" Б. Тарашкевіча ў фарміраванні нашай асветы, нават у фарміраванні нашай інтэлігенцыі. Па сведчанні акадэміка С. Некрашэвіча, яна ў беларускім мовазнаўстве вызначае цэлую эпоху. А. Ліс падрабязна прасачыў шлях Б. Тарашкевіча, асаблівую ўвагу засяродзіў на яго дзейнасці ў польскім Сейме, у арганізацыі Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, якая за нейкія паўтара года згуртавала вакол сябе 100 тысяч чалавек.

"Я з асаблівым хваляваннем пазнаёміўся з рукапісам А. Бергман, перакладзеным на беларускую мову не прафесійным перакладчыкам, а настаўнікам Яраславам Касцюком, можна сказаць, чалавекам, які ў сваім лёсе таксама судакрануўся са сцежкамі Б. Тарашкевіча і быў захоплены яго грамадскай дзейнасцю", — засведчыў рэдактар кнігі "Слова пра Браніслава Тарашкевіча" М. Мятліцкі. — Гэтае свайго роду паяднанне героя, аўтара, перакладчыка дало магчымасць мне, як рэдактару, пільна і ўважліва прыглядзецца да таго, што зроблена гэтымі трыма чалавекамі ў гісторыі і нашай нацыянальнай культуры". На думку М. Мятліцкага, гэтая кніжка пра Б. Тарашкевіча і выйшла ў Польшчы значна раней, чым у нас, таму, што і працэсы дэмакратызацыі ў жыцці грамадства там таксама пачаліся значна раней, а гэта дало магчымасць прытрымлівацца цывілізаванага падыходу да асэнсавання падзей гісторыі і цывілізаванага аналізу іх.

Высокую ацэнку кнізе даў і першы сакратар Рэспублікі Польшча ў Беларусі па пытаннях культуры і навукі П. Пшэчышэўскі. Ён гаварыў аб неабходнасці далейшага пашырэння культурных кантактаў паміж двума нашымі народамі.

**Н. К.**

*Пошта*

# "НАРОД ПУГАЧЕВА ЕЩЕ НЕ ЗАБЫЛ..."

***Гэты ліст прыйшоў у рэдакцыю амаль паўгода назад. Быў ён падрыхтаваны да друку, ды па розных прычынах, у тым ліку і з пачуцця такту, так і не трапіў на газетную паласу. Мінуўся час, і аказалася, што чытацкі допіс не толькі не страціў сваёй актуальнасці, а набыў, бадай, яшчэ большую вастрыню, загучаў яшчэ больш горка і балюча.***

Шаноўны "ЛіМ"! Дапамажы хоць ты зняць цяжар з душы. Я ўжо не маю сілы маўчаць, не магу знайсці душэўнага спакою ад таго, што робіцца ў нашай Айчыне. Я — карэнны беларус, ведаю свой радавод ад прапрадзеда, які быў "куплен в 1809 году" панам Лышкевічам, толькі не ведаю, дзе і за які кошт, адчуваю сябе, як тая апошняя прадстаўніца папуляцыі выбітых у Белавежскай пушчы тураў. Яна, адчуўшы, што засталася адна, ашалела бегала, рыкаючы, з урочышча ва ўрочышча, шукаючы сваіх суродзічаў, а натыкалася то на статак зуброў, то на ласіную сям'ю, то на купку пудлівых аленяў. І ў выніку, знямогшыся, у адчаі павалілася на зямлю і здохла...

Як жа так? У суверэннай Беларусі — усё рускае: да кіёска з газетамі падыдзеш — адна "Звязда" ды "ЛіМ", рэшта ўсё рускамоўнае; на кніжныя прылаўкі глянеш — аніводнай беларускай назвы; выступленні чыноўнікаў паслухаеш — ад прэзідэнта беларускай дзяржавы да старшыні калгаса — усе па-руску; на Авальную залу настроішся — ад старшыні парламента да інжынера па камп'ютэрнай тэхніцы — усе па-руску. Тое ж і на вуліцы, і ў навучальных установах і школах, ва ўсіх дзяржаўных і недзяржаўных канторах і арганізацыях.

А 7 лютага з дапамогаю "Звязды" пазнаёміўся з найшчырэйшым беларусам, новым міністрам культуры рэспублікі А. Сасноўскім. З асаблівай цікавасцю прачытаў і перачытаў ягоны адказ на 8-ае пытанне, дзе журналістка пацікавілася: "... чым небяспечна для беларускай нацыі паступовае выцясненне беларускай мовы з ужытку, з сістэмы навучання, якое пачало ажыццяўляцца на дзяржаўным узроўні пасля рэферэндуму 1995 года?" Само пытанне адлюстроўвае сапраўднае становішча канчаткова дабіваемай, вынішчаемай нашай мовы, а паважаны міністр кажа, што такая пастаноўка пытання — некарэктная. Паважаны Аляксандр Уладзіміравіч! Калі б вы думалі гэтак, як сфармулявала сваё пытанне Т. Антонава, то ці былі б прызначаны на гэтую пасаду? Наш прэзідэнт вельмі тонка адчувае, дзе шчыры беларус, а дзе "расійскі", каб запрасіць першага на адказную пасаду паслужыць народу беларускаму, роднай нацыі, справе яе адраджэння. Аляксандр Уладзіміравіч, скажыце: гэтае "рэальнае двухмоўе" склалася, стварылася ў нас "рэальна" ці штучна, прымусова? Няўжо вы забыліся пра 1696 год, няўжо вам нічога не гаворыць год 1836-ы? А "клопаты" аб росквіце нашай мовы ў савецкі час? Чаму ж вы забыліся пра гэта? Чаму ж вы забыліся, што беларускай дзяржаве ў сферы кіравання і навукі кожны другі — расіец? Чаму ж вы забыліся, што ў 1989 годзе на 100000 дарослага насельніцтва ў Беларусі дактароў навук-беларусаў было ажно 6, а рускіх — толькі 33? Чаму ж вы забыліся, што ў 1980—81 навучальным годзе на 10000 дарослага насельніцтва Беларусі беларусаў-студэнтаў было ажно 169, а рускіх толькі 326? Што, гэта "рэальна склалася"?

Аляксандр Уладзіміравіч, дык што, не скарацілася колькасць беларускамоўных класаў і колькасць дзяцей, якія вучацца па-беларуску, пасля рэферэндуму? Ці прапарцыянальная колькасць гэтых класаў колькасці беларускага насельніцтва?

Аляксандр Уладзіміравіч, вы не бачыце небяспекі для беларускай нацыі ва ўмовах так званага двухмоўя? Падмацуйце гэта навуковымі дадзенымі. Чаму ж тады выдатнейшыя вучоныя-філолагі і філосафы, гісторыкі, нашы і замежныя, перад майскім рэферэндумам пераканаўча даводзілі, што двухмоўе — пагібель не толькі для беларускай мовы, а і для самой нацыі ў блізкай ужо перспектыве? І ініцыятары рэферэндуму не выступілі зноў-такі з навуковымі доказамі карыснасці гэтага мерапрыемства. Можа, вы гэта зробіце? Вы кажаце, што ў дзяржаве створаны ўмовы для нармальнага функцыянавання дзвюх моў. Тады скажыце, ці аднолькавая колькасць у нас у Мінску пішучых машынак з рускім і беларускім шрыфтам? А ці аднолькавая колькасць рускамоўных газет і газет на мове карэннай нацыі?

Сказалі б вы сумленна, што беларуская культура, як і мова, стаялі, стаяць і будуць стаяць на мяжы жыцця і смерці. Бо хто іх будзе падтрымліваць? Прэзідэнт родную мову зганьбіў на ўвесь свет. Дык няўжо ён "такое дзярмо" будзе падтрымліваць (хоць публічна і абяцаў)?

Абразліва-крыўдна за дзяржаву, за яе ўладу, якая адмаўляецца ад нацыянальных святынь невядома дзеля чаго. Але думаецца, што калі не праз дзесяцігоддзі, дык праз стагоддзі, насыціўшыся расійскім раем, знойдуцца на нашай зямлі Сыны і Дочкі, якія ў энцыклапедыях і архівах адшукаюць звесткі пра характэрныя рысы вынішчанай беларускай нацыі, пра яе культуру, мову, багацейшую гісторыю і адродзяць гэта ўсё да жыцця, як селекцыянеры адрадзілі белавежскіх зуброў, як яўрэі адрадзілі сваю мову і краіну. А мы, "временщики", нацыянал-здраднікі, нацыянал-нігілісты, манкурты, будзем асуджаны на ганьбу і праклясце.

Памятаеце: "Народ Пугачева еще не забыл, а Бирона нет и в помине"...

**В. СКАРАХОД, пенсіянер**

*г. Мінск*

***Напрыканцы траўня, слухаючы на рэгіянальнай канферэнцыі ў Варшаве спрэчкі наконт фактараў бяспекі і небяспекі ў рэгіёне Беларусь — Польшча — Украіна, я міжволі звярнуў ўвагу на аднаго з польскіх удзельнікаў канферэнцыі — такія абвостраныя былі яго рэплікі, у тым ліку і на выказванні афіцыйных асоб беларускай дэлегацыі. Ім аказаўся пісьменнік і перакладчык Ежы Памяноўскі, вядомы ў Еўропе таксама і як філосаф, палітолаг і грамадскі дзеяч.***

***Прапаную ўвазе чытачоў гутарку з панам Ежы ПАМЯНОЎСКІМ, які пераклаў на польскую мову “ўсяго Салжаніцына”. З аўтарам “Архіпелага ГУЛАГа” польскі пісьменнік пачаў супрацоўнічаць яшчэ ў 1969 г., жывучы ў Італіі. Тады, у Рым, яму і перапраўляліся рукапісы Салжаніцына. Пасля 26-гадовай эміграцыі пан Ежы толькі што вярнуўся на жыхарства ў Польшчу.***

# ПРА БЕЛАРУСЬ І НЕ ТОЛЬКІ...

## ГУТАРКА З ПОЛЬСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ І ПЕРАКЛАДЧЫКАМ ЕЖЫ ПАМЯНОЎСКІМ

— Польская літаратура заўсёды кармілася паветрам, традыцыяй, легендамі Беларусі. Само прозвішча “Міцкевіч” значыць, што ён быў беларусам, бо паходзіць ад “Міцька”. І ў сучаснай польскай літаратуры ўсё гэта, як і сустрэчы з людзьмі, што паходзяць з Беларусі, адыгрывае велізарную ролю. Сярод маіх сяброў нямала ўлюбёных у вашы мясціны, выхадцаў з цудоўнага беларуска-польска-літоўскага памежжа. Тадэвуш Канвіцкі, што нарадзіўся ў Ваколіцах Вільні, апісвае краявіды, вядомыя вам дасканала з творчасці не толькі Коласа, але і Багдановіча. Хацеў бы вам нагадаць, што ў другой палове XIX ст. у Польшчы найпапулярнейшы быў не хто іншы, як Уладзіслаў Сыракомля. Пісьменнікам, які стварыў своасаблівы від літаратуры, што спалучыла рэпартаж з гістарыясофіяй, стаў Рышард Капусціньскі, родам з Пінска, які пра Пінск піша, які закаханы ў Палессе.

Успамінаю, што і я дзіцём быў у Беларусі, насіў стрэльбу за маім стрыечным братам Мечыславам, якога запрасілі ў Давыд-Гарадок на паляванне да Радзівілаў. Тое, што з тых часоў памятаю, гэта перш за ўсё пачуцці паляўнічага, якія я зведаў сярод багнаў Прыпяці, на беларускай зямлі. І з тых часоў я заўзяты паляўнічы, з чым жонка ніяк не змірыцца.

Ёсць у мяне сябар — Мар’ян Брандыс, аўтар апавядання “Каралеўства Беларусь”. Гэта ён, поўны спачування, поўны любові да Беларусі, апавёў аб трагедыі тых барацьбітоў за незалежнасць Беларусі, якія пад кіраўніцтвам генерала Булак-Балаховіча змагаліся ў 1920 г. на польскім баку. Мар’ян Брандыс і яго брат Казімеж, два буйныя сучасныя польскія пісьменнікі — мае сябры, і я гэтым ганаруся. Яны нарадзіліся на маёй радзіме — у Лодзі. Старэйшы брат, Мар’ян, лепш памятае тыя часы, калі ў іх кватэры знаходзіліся салдаты і афіцэры беларуска-літоўскай дывізіі. Ён апісвае іх, паўтаруся, з любоўю, вялікай сімпатыяй, якую ўвогуле беларусы абуджаюць. На шчасце, не было паміж нашымі народамі тых жахлівых сутычак і разні, як гэта было, напрыклад, на Украіне, на мяжы польска-ўкраінскай,аб чым дагэтуль шкадуюць і ўкраінцы, і мы.

Але пагаворым не пра гісторыю, на якую мы ўжо ўплыву не маем, а пра сучаснасць і пра будучыню. Я расказаў пра тыя літаратурныя і гістарычныя традыцыі толькі дзеля таго, каб мае беларускія чытачы зразумелі, што я адзін з многіх польскіх пісьменнікаў, які, па сутнасці, вашай зямлі, вашых краявідаў амаль не ведае, тым не менш з самых ранніх гадоў быў насычаны тымі самымі ўспамінамі, традыцыямі і літаратурнымі ўражаннямі, якія былі блізкія душы кожнага свядомага беларуса.

Тое, што я гавару аб Беларусі як аб нечым асобным, тое, што традыцыі ВКЛ мне вельмі дарагія, не азначае, што я не разумею, што дамінацыя Польшчы ў даўняй Рэчы-Паспалітай была несправядлівая. Мае вочы не замутненыя таксама нянавісцю да Расіі, і таму я ўсё жыццё мог перакладаць рускую літаратуру. У сваёй краіне я не менш вядомы як перакладчык, чым як аўтар уласных кніжак. Праз колькі дзён у вялікім варшаўскім выдавецтве “Чытэльнік” адбудзецца прэзентацыя адразу некалькіх маіх кніжак. Побач з томам эсэ “Магнітны полюс” будуць прадстаўлены і мае пераклады — новыя выданні твораў А. Салжаніцына, якога я перакладаў яшчэ тады, калі тое было крыміналам — і ў Польшчы і ў Саюзе. Я быў тады ў эміграцыі ў Рыме і на заклік Ежы Гедройца, рэдактара парыжскай “Культуры”, найлепшага выдання, якое ў гісторыі нашага народа існавала, замест таго, каб думаць аб сваіх уласных кніжках і універсітэцкай кар’еры, узяўся за пераклад кантрабандна вывозімых з Расіі твораў Салжаніцына. Было гэта ў 1969—70 гг. І на працягу 5 гадоў я не рабіў нічога, апрача перакладаў “В круге первом”, “Архипелага ГУЛАГа”, публіцыстычных матэрыялаў. Потым былі творы Шаламава, а таксама артыкулы Андрэя Сахарава, гэтага вялікага неадшкадаванага чалавека, які з пэўнасцю б вітаў вольнасць і незалежнасць Беларусі і Украіны.

**— Ці давялося вам чытаць кніжку Францішка Яноўха “Феномен Андрэя Сахарава”, выдадзеную нядаўна ў Празе?**

— Канешне, ведаю гэтую кніжку. Вельмі цаню і люблю чэхаў і славакаў, і ў найменшай меры з-за нацыянальна этнічных прычын, больш з-за агульных карэнняў культуры і агульнага чытання. Нічога так людзей не звязвае, як разам прачытаныя кнігі.

**— Вы, вядома ж, чытаеце па-чэшску, па-славацку?**

— Па-славацку лягчэй, але затое па-чэшску мае творы больш перакладаліся. Напрыклад, у часопісе “Стржэдні Эўропа” месяцы два назад з’явілася маё эсэ “Як дапамагчы Расіі”. Так, Расіі, а не Савецкаму Саюзу. Хацелася, каб мае беларускія чытачы ведалі, што, разам са многімі палякамі, я лічу, што ў Польшчы няма антаганістычных адносінаў да Расіі, але ёсць антаганістычныя адносіны да Савецкага Саюза. Гэта трэба зразумець. Але мяне турбуе, што ў Расіі, на жаль, захавалася адна пагібельная ідэя. Гэта ідэя не расійская, а нямецкая, гітлераўская — ідэя Lebensraum’a, ідэя, паводле якой для магутнасці дзяржавы патрэбныя захопы жыццёвых прастораў чужых зямель, пашырэнне межаў, распіхванне локцямі. Ідэя гэта засталася толькі ў Расіі. У іншых месцах яе выкінулі. Французы благаслаўляюць Дэ Голя за тое, што ён загадаў ім выйсці з Алжыра. А яшчэ нядаўна крычалі, “Алжыр павінен быць французскім!” Гінулі за гэта. Зараз яны шчаслівыя, што там іх няма. Англічане з гонарам пакінулі Індыю, і горш ад таго ім не стала.

**— Мне спадабалася, як вы адрэагавалі на яхідную рэпліку намесніка міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча: сам бы, маўляў, уступіў у НАТА, так яго тут хваляць.**

— Я з усёй павагай стаўлюся да віцэ-міністра Антановіча. Ён вельмі прафесійна абараняў сваю справу. Шкада толькі, што справа несправядлівая. Але з адным яго палажэннем я зусім згодны, нават яго запісаў: “У 1973 г. у французаў не было ні золата, ні сыравіны. Але ў іх была ідэя, і яны перамаглі”. Людзі, якія думаюць як я, лічаць, што Беларусі, каб выйсці з дэпрэсіі, з эканамічных запазычанасцяў, не трэба разлічваць на Расію і чакаць дапамогі толькі ад Расіі, як гэта было ў савецкія часы. Не буду тут гаварыць пра мову і культуру, пра нацыянальную годнасць. Я не магу асуджаць беларусаў за тое, што многія з іх не ведаюць уласнай мовы. Ірландцы размаўляюць па-англійску, а не на сваёй, кельтскай мове. Але ў іх ёсць пачуццё нацыянальнай годнасці, яны ваююць за незалежнасць, асабліва ў Паўночнай Ірландыі. Хаця іх спосаб барацьбы і годны асуджэння, як усякі тэрарызм.

Якія слабыя пункты я бачу ў пазіцыі Антановіча ў адносінах з Расіяй? Па-першае, яму не шкада расіян. Ён не разумее, што ўзяць Беларусь на ўтрыманне азначае павелічэнне на 10 працэнтаў знешняга доўгу збяднелай Расіі. Расіяне з гэтым не захочуць пагадзіцца, бо зусім не мараць, каб расійскі рубель курсіраваў замест “зайчыка”. Зараз яны ў абмен на сыравіну, нафту, машыны атрымліваюць з Беларусі драўніну, жыўнасць, сыр, масла, часам зерне, цяжкагрузныя аўтамабілі... А што будзе тады? Свае ўласныя папяровыя рублі. Можа, спачатку гэта ім і спадабаецца, але потым перастане, і яны пачнуць беларусаў праклінаць. І зноў будуць чэргі. Хто вінаваты? Беларусы. А ў чым? Ды ні ў чым. Яны таксама хочуць жыць.

Другая памылка яшчэ горшая. Яна заключаецца ў тым, што віцэ-міністр Антановіч, замест таго, каб даць беларусам вуду, хоча даць ім рыбу... Адкажыце на пытанне: што вы робіце з зямлёй? Хіба беларускія сяляне бяруць зямлю? Не.

**— Не бяруць, бо псіхалогія ўжо не тая.**

— Прабачце, Маркс меў рацыю: псіхалогія залежыць ад эканомікі. Калі чалавек убачыць, што ўласная зямля яму на карысць, дык ён яе возьме.

**— Якраз з гэтым і цяжкасці. Дзяржава ж — за калгасы, трыльённыя падачкі ім для падтрымкі дае.**

— Калгасы — для людзей без ініцыятывы і без будучыні, для людзей запалоханых. Беларускі селянін будзе ў калгасе дагэтуль, пакуль не будзе ўпэўнены, што атрымае зямлю ва ўласнасць. У Польшчы ў 1956-м Гамулка, які быў склеротыкам і сатрапам, але часам розум меў, аддаў зямлю сялянам ва ўласнасць, ліквідаваў калгасы. Польскі селянін заўсёды быў самадзельны, за выключэннем 4 альбо 5 гадоў. І гэта вельмі важна. Беларуская сельская гаспадарка, калі б аказалася ў прыватных руках, была б не горш за скандынаўскую. Упэўнены, калі б я паразмаўляў з віцэ-міністрам з тыдзень, — а гэты пан мне асабіста спадабаўся, — я яго б пераканаў.

**— Так, у вас для гэтага ёсць неабходныя якасці.**

— Я прывёз бы яго да сваіх сяброў-паляўнічых. Ён бы ўбачыў, што селянін наш не дасць зямлю адабраць. Яшчэ пры камунізме я гаварыў аднаму з іх: “Антэк, чаго гэта ты так глотку рвеш на людзях? Не баішся?” А ён: “З селяніна ж мяне не знімуць”.

**— Але міністра ці яго намесніка знімуць, калі будзе выказваць “не тыя” погляды. Што ж да Антановіча, дык ён вельмі інфармаваны, колькі гадоў быў дырэктарам Белінфармпрагноза, не горш нас разумее, што робіцца нешта не тое. Пераконваць яго — пустая справа.**

— Без пэўнай адвагі, аднак, не абысціся. У 70-х гадах дзеячы “Салідарнасці”, пачынаючы страйкі, усведамлялі, што не толькі працу могуць страціць, а і ў турму трапіць. Але спыніла сваю дзейнасць верф, а за ёю і іншыя прадпрыемствы. І вось прэм’ер Ярашэвіч — блаславі Гасподзь яго душу! — прыехаў у Лодзь на вялікую ткацкую фарбрыку, спытаўся: “Чаго вы бастуеце?”, а яго там закрылі разам з ткачыхамі на трое сутак, хлебам і малаком кармілі, пакуль ён не паабяцаў адмяніць павышэнне цэн на хлеб, што і было зроблена. Гэта была нармальная забастоўка, не злачынства, не разня. Крыху адвагі трэба мець. І сяляне на такое здольныя. Калі возьмуць зямлю, Беларусь праз тры гады будзе самадастатковай краінай. Па меншай меры ў адносінах да харчавання. І з’явяцца сыр, каўбаса і ўвогуле што хочаце. Прычым без чаргі.

**— Праблема ў нас не чарга, а грошы, каб купляць тое, што ёсць у крамах.**

— А якой вытворчасці тавары і прадукты?

**— У асноўным не беларускай, канешне.**

— Ведаю якія. Я толькі што з Масквы. Снікерсы-крэкерсы. Галандскія сыры і іспанскія каўбасы.

**— У Маскве такога больш, у нас менш, але сітуацыя падобная.**

— Я скажу, чаму так. Таму, што селянін не працуе толькі на сябе. Належыць да калгаса, на сваім корпаецца ўчастку — толькі каб мець кавалак хлеба. Гарбачоў адчыніў межы, адкрыў шлях рэформам. Але справа не толькі ў гандлі, але і ў вытворчасці.

Аб тым, што адбываецца на Беларусі, я ведаю ад майго сябра, самага галоўнага ў Польшчы прапагандыста беларускай культуры. Яго імя Земавіт Фядэцкі. Ён — рэдактар лепшага ў Польшчы літаратурнага часопіса “Творчасць”, вядзе там аддзелы паэзіі і аглядаў славянскага друку. Асаблівую схільнасць ён мае да беларускай літаратуры і беларускага фальклору. Ягоная кніжка аб беларускім фальклоры — “Цёплыя вечары” — надрукавана і кірыліцай, і лацінкай. Гэты чалавек — сын польскага перадваеннага селяніна, які меў участак зямлі пад Лідай і быў інспектарам працы. Інспектар Фядэцкі займаўся тым, што абараняў беларускіх батракоў і вытворцаў ад самавольства падатковых чыноўнікаў, такая была ў яго функцыя. І ён гэтую функцыю так шчыра выконваў, што калі прыйшлі немцы і ягонага сынка Земку хацелі забраць на работы ў Германію, то што зрабіў стары пан Фядэцкі? Ён аддаў свайго сына беларускім сялянам, каб яны яго ў сябе схавалі. І Земек правёў чатыры гады ў беларускай вёсцы, размаўляў па-беларуску. І што тады Земек рабіў? Ён запісваў беларускія прыпеўкі, песні, прымаўкі — якія і выдаў нядаўна ў Польшчы.

Што было далей? Нядаўна лідчане запрасілі пана Земавіта Фядэцкага да сябе, каб адзначыць яго юбілей. Яны там хацелі ў яго гонар арганізаваць свята. Таму, што такой кнігі, як “Цёплыя вечары”, ніхто дагэтуль не напісаў. Яна выйшла, тут яе людзі чыталі, хвалілі, ён атрымліваў пісьмы ад беларусаў, з Беластока і іншых месцаў Польшчы. Канешне, лідчане былі яму ўдзячныя.

І вось толькі што я даведаўся ад майго сябра, што па распараджэнні з Мінска гэта свята было адменена і ў месца свайго дзяцінства ён не паедзе. Не дазволілі адзначыць юбілей паляка ў Беларусі.

Будзеце пісаць, абавязкова скажыце аб Земавіце Фядэцкім. І перадайце мае пытанне кіраўнікам Беларусі: “Чаму Беларусь не хоча мець сяброў? Хіба ў яе іх так многа, што больш не трэба?”

**Гутарку правёў**
**Уладзімір ГРАЦЦЯКОЎ**

## ВОДГАЛАС СЛАВЫ РАТНАЙ

**Тэматычным атрымаўся чарговы выпуск зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", які не першы год выходзіць у выдавецтве "Юнацтва". Гэтым разам ён прысвячаецца ратным подзвігам беларусаў у розныя часы, яскрава сведчыць, як нашы продкі баранілі родную зямлю ад чужынцаў, як марылі жыць у свабоднай, незалежнай дзяржаве. На гэтым момантце акцэнтуе ўвагу ў прадмове "За волю і славу" ўкладальнік кніжкі С. Панізнік. У прыватнасці, ён прыводзіць вытрымку з артыкула Я. Купалы "Незалежнасць", упершыню апублікаванага 28 лістапада 1919 года ў газеце "Беларусь": "А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.**

**Што яна павінна такой стацца, за гэта гаворыць не мінуўшчына, а цяперчына.**

**Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў". Канечне, знайшлося ў выпуску месца і самому артыкулу народнага песняра. Поруч з іншымі ўзорамі яркай, прасякнутай нацыянальнай ідэяй публіцыстыкі Я. Купалы 1919—1920 гадоў "Незалежнасць" прадстаўлена ў адным з раздзелаў, што называецца "Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!" А назву яму, як няцяжка здагадацца, даў верш Я. Купалы "Для Бацькаўшчыны", калі канкрэтней, яго заключны радок. Тут жа вершы Я. Купалы "Маладая Беларусь", "Бацькаўшчына", "Свайму народу". Змешчаны вершы Я. Коласа, А. Зязюлі, А. Салаўя, У. Жылкі і іншых аўтараў, у тым ліку і "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." М. Краўцова, а таксама апавяданне Ц. Гартнага "На руінах", аповесць В. Ластоўскага "Лабірынтцы" і эсэ С. Панізніка "Разам з абуджанай памяццю", са старонак якога паўстаюць вобліկі саміх Ц. Гартнага і В. Ластоўскага. Адкрывае ж "Бацькаўшчыну" раздзел "Жыве Беларусь!". У ім прапануюцца ўзоры вуснапаэтычнай творчасці нашага народа — гістарычныя, рэкруцкія, ваяцкія, партызанскія песні. Адны з іх існуюць ужо не адно стагоддзе, як, для прыкладу, "Беларуская песня пра Касцюшку", іншыя з'явіліся параўнальна нядаўна, у час усеагульнай барацьбы з фашызмам. Тым не менш тэматыка іх блізкая — услаўленне герояў, заклік да барацьбы з чужынцамі і ўпэўненасць, што родная зямля абавязкова будзе свабоднай.**

**У асобны раздзел вынесены "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх" (прадмова і пераклад В. Чамярыцкага). А гэта, як сведчыць В. Чамярыцкі, "цікавы помнік беларускай гістарычнай прозы позняга Сярэднявечча, першая спроба стварыць палітычную гісторыю Літвы і Беларусі таго часу. Няпроста ішло будаванне Літоўска-Беларускага гаспадарства, у якім наша мова была дзяржаўнай... Найвышэйшай ваенна-палітычнай магутнасці і міжнароднага аўтарытэту гэтая дзяржава дасягнула пры вялікім князе Вітаўце. Ён і стаў галоўным героем першага беларуска-літоўскага летапісу".**

**Дарэчы, шмат якія слаўныя сыны Бацькаўшчыны — героі гэтай кнігі. Найперш вобліկі іх узнаўляюцца ў раздзеле, што так і называецца — "Постаці". Вось толькі асобныя матэрыялы: "Даўмонт" і "Апошні бой князя Вячкі" В. Чаропкі, "Слова пра дружыну нясвіжскую" І. Масляніцынай, "Як случакі ваяваць вучыліся" і "Беларусь у войнах XV—XVII стагоддзяў" М. Ткачова, "Бітва пад Оршай" А. Грыцкевіча...**

**Не менш багатыя па змесце і раздзелы "...У нягодах няспынных паходаў" і "Пакланёмся любіць наш край!.." А да ўсяго выпуск добра ілюстраваны. У прыватнасці, ёсць аблічча Усяслава Чарадзея, Жыгімонта Вазы, вялікага князя Аляксандра Казіміравіча, Цёткі, В. Ластоўскага...**

**А. М.**

## ЯШЧЭ АДЗІН МАГАЗІН

**Магчыма, на гэта і не было б патрэбы звяртаць асаблівую ўвагу, калі б гаворка не ішла пра магазін Мінскага гарадскога аптова-рознічнага прадпрыемства "Белсаюздрук". Адчыніўся ён у падземным пераходзе станцыі "Пушкінская" Мінскага метрапалітэна. Ва ўтульным памяшканні можна набыць не толькі свежыя нумары газет і часопісаў, але і кнігі, альбомы, календары, розныя даведнікі, ёсць сувеніры, канцтавары. Прыемна і тое, што працуе магазін з сямі гадзін раніцы — а гэта самы час, калі людзі спяшаюцца на работу. І гэта лішні раз пераконвае, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, у "Белсаюздруку" памятаюць, што без друкаванага слова чалавеку не пражыць.**

Эсэ

# У РАКУ МІНУЛАГА...

***Мы зусім розныя. Але пры ўсёй нашай неаднолькавасці ёсць нешта такое, што нас зблiжае. Інакш, мне здаецца, мы проста згубіліся б у гэтым свеце.***

***Вось і ў аповесцях Андрэя Федарэнкі, надрукаваных апошнім часам у часопісе "Полымя", — "Такое кароткае лета" (N 8, 1994) і "Вёска" (N 5, 1995), — зусім розныя людзі. Ён — састарэлы нямоглы мужчына, жыхар сталічнага горада ("Такое кароткае лета"), і Антон Васкевіч, учарашні студэнт, а сёння выключаны з інстытута сельскі хлопец ("Вёска). І першы, і другі ў цяжкую хвіліну едуць у вёску, у бацькоўскі кут, каб знайсці спакой для душы. Абодва як бы ўваходзяць у раку мінулага. Вось гэта — тая плынь, што на нейкі час злучае іх у мастацкай прасторы. Гэта — зыходны пункт, своеасаблівы вугал даследавання, які выбірае аўтар.***

***Едуць у вёску: Ён — каб, магчыма, знайсці апошні прытулак на бацькоўскім дворышчы, Антон Васкевіч — каб набрацца ў матчынай хаце сіл у часіну скрухі.***

I

Дагарала лета, як лісток, што пакорліва жаўцеў на прыдарожнай бярозе, а Ён не заўважаў ніякіх перамен у прыродзе. Ён усё жыў тым, што было ў мінулым, якое спаткаў у роднай вёсцы, куды прыехаў на лета. Пара і збірацца, каб вяртацца назад, у горад, дзе засталася сям'я, аднак Ён шкадаваў, што трэба развітвацца з Лідай, якая зрабілася роднай, з новым укладам жыцця, што стаў звыклым...

Хачу разабрацца: чаму Ён, герой твора, нават не названы па імені, нямоглы стары чалавек, які наважваўся паміраць на родным падворку, моцна запаў у памяць? Чаму разам з ім перажываю? Чаму хочацца, каб Ён яшчэ і яшчэ на лета вяртаўся ў бацькоўскі кут?

Пісьменнік, даследуючы характар героя, ставіць яго ў такія умовы, каб, як кажуць, раскрыліся ўсе закуткі душы. Аўтар набліжае яго да нас, найперш — праз побытавыя дэталі. Выпісваюцца яны запамінальна, на іх кладзецца асноўная псіхалагічная нагрузка. Тут — і ўспаміны, афарбаваныя шкадобай, і апісанні падворка, у якіх шчымліва-трапяткая краса, і малюнкі дзяцінства, кранутыя светлым сумам. Сюжэтная лінія ледзь улоўліваецца. На першы погляд, яе і няма. Проста чалавек рэтраспектыўна аглядае той кавалак жыцця, што прайшоў на гэтай грэшнай зямлі.

Але гэта не так. Яна, сюжэтная лінія, высноўваецца, хай і не надта прыкметна, з успамінаў; яна трымаецца на настроях і перажываннях; яна сцягвае аповед у цэлае.

У лёсе героя мне ўбачылася тое, што ўжо было і можа быць з кожным з нас. Ён прайшоў, абцяжараны гадамі і хваробамі, тымі сцежкамі, што наканаваны ўсім нам. Ён перадумаў за лета тое, пра што непазбежна будзем думаць мы кожны ў свой час, калі пачне гаснуць на небе свая зорка. Ён як бы правёў нас праз кола маральнага ачышчэння і ўнутранага ўваскрэсення. Карацей кажучы, аўтар знайшоў такое мастацкае рашэнне, калі вопытам героя праз яго мінулае зблізіў усіх нас.

Вось гэта, відаць, і ёсць адказы на пытанні, што ўзніклі ў мяне.

У аповесці дзеянне запаволенае, у ім — ніякіх рэзкіх паваротаў. Быццам у ціхай рачулцы дзяцінства, што задумна нясе свае воды. Толькі роздум над мінулым, што паўстае з запісаў у дзённіку, размоў з Лідай, назіранняў і ўспамінаў. Ён то згаджаецца з сабой, маладым, то спрачаецца, марудна пераацэньвае каштоўнасці, якія, здавалася, былі для яго бясспрэчнымі.

Часам з'яўляецца побач усё тая ж былая аднакласніца Ліда, з якой у школьныя гады звязвала першае каханне. Цяпер яна жыве самотна, уся ў клопатах пра сваю гаспадарку. Ліда моцна злучае Яго з мінулым.

Псіхалагічнае поле, створанае рэтраспекцыяй, трымае ў напружанні. Чалавек стары і нямоглы становіцца цікавым. Чаму? Адкрываецца самае запаветнае — яго душа. Праз дзённікавыя запісы, хваробу і шчырую адкрытасць перад Лідай. Свет вакол падаецца нейкім ірацыянальным, але, безумоўна, ён сапраўдны. Рэальнае месца, дзе Ён цяпер жыве, рэальная Ліда ды запісы ў дзённіку.

Тут і праяўляецца здольнасць пісьменніка да псіхааналізу. Дакладней — ён сам па сабе вынікае з мастацкага прыёму рэтраспекцыі. У дэталях побыту ўвасабляецца ўсё важнае, чым жыве чалавек. Дакладна праясняюцца матывы, якія абумоўліваюць перамены ў паводзінах. Тут — дэтэрмінізм, але не той жорсткі, што зацягвае, як пятлёй. Чалавек ацэньвае сам сябе. Гэта тым больш шчымліва-трагічна, што Ён на схіле гадоў, калі ўглядаецца ў свае памылкі і ўдачы, не могучы ўжо нічога паправіць.

Ён сам гартае старонкі свайго жыцця, чым напрошчваецца псіхалагізм. Тым мацней яго ўздзеянне, што герой надзвычай адкрыты. Пацвярджаецца заканамернасць: псіхілагізм у творы — гэта не што іншае, як набліжэнне, бясконцае і недасяжнае, да праўды жыцця. Яна — у думках і ацэнках героя. Многія псіхалагічныя вузельчыкі якраз там, дзе Ён чытае дзённікавыя запісы, зробленыя ў маладыя гады. Ён то хвалюецца за памылкі, дапушчаныя некалі, то спрачаецца з сабой. Ствараецца своеасаблівае прыцягненне, у якое трапляеш міжволі, і хочацца глыбей спасцігнуць варункі жыцця героя.

У аповесці ёсць цікавыя разважанні пра літаратурную творчасць. Сам герой меў да яе прамое дачыненне. Несумненна, Ён выказвае ў многім погляды аўтара. Ацэнкі, бывае, вельмі крытычныя, але трапныя і доказныя.

Мне верыцца, што Ён яшчэ не раз летам прыедзе ў родную вёску, дзе засталіся сляды мінулага, якія будзяць у памяці свежыя росы на ранку, ціхую ў чырвані зару і белую хусцінку аднакласніцы Ліды...

Вось так у тое лета нечакана для сябе ён уступіў у раку мінулага. Яна ўжо не віравала і не пенілася, як у гады маладосці. Яна спакойна плыла ў роўных берагах. Ён ледзь пазнаваў яе, схіляўся над яе водамі, апускаў у іх стомленыя далоні. О, гэта вада была гаючая! Ён зведваў палёгку, быццам скідаў з плячэй хваробу і цяжкі груз пражытых гадоў.

II

Суровыя абставіны склаліся так, што Антон Васкевіч мусіў падацца ў вёску, дзе жыла адзінокая маці. Іншага выхаду ў яго проста не было. Выключаны са сталічнага інстытута за "нацыяналізм", ён павінен быў недзе перачакаць пэўны час, каб лепей асэнсаваць тое, што здарылася, зразумець сябе і вызначыцца: што ж далей?

Завязка ў аповесці энергічная, яна

Сярод кніг

# "...КАЛІ ПАКУТУЕ МОЙ РОДНЫ ЛЮД"

Мікола Жыгоцкі — аўтар (і гэта, відаць, не перабольшанне) некалькіх соцень артыкулаў пра жыццёвыя і творчыя перыпетыі ў лёсе Я. Коласа. Акрамя гэтага, даследчык выдаў чатыры кнігі, прысвечаныя вялікаму песняру. Апошняя з кніг — "У цяжкі час вайны суровай" ("Навука і тэхніка", 1995). У падзагалоўку — наступнае ўдакладненне: "Аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа ў эвакуацыі".

Услед за аўтарам прадмовы Уладзімірам Гніламёдавым нельга не пагадзіцца з наступнай высновай: "Неабходна адзначыць, што гэты перыяд недастаткова даследаваны, а між тым тут шмат цікавага і павучальнага, шмат матэрыялу для роздуму. Сабраў яго, сістэматызаваў і напісаў кнігу чалавек, які большую палову жыцця аддаў вывучэнню дзейнасці песняра. Нельга не ўхваліць гэтай збіральніцкай, скрупулёзнай працы Міколы Рыгоравіча, як і той прыкметнай навукова-даследчыцкай работы, што даўно зрабіла яго імя дастаткова вядомым сярод тых, хто сёння цікавіцца спадчынай народнага паэта, хто аддае свае веды і здольнасці высакароднай справе вывучэння і папулярызацыі багатай спадчыны аднаго з карыфеяў беларускай літаратуры".

М. Жыгоцкі, будуючы сваю кнігу, выбраў храналагічны шлях. У выніку і склалася наступная паслядоўнасць раздзелаў: "Боль з народам дзяліў", "Паэзія барацьбы", "Голас праўды", "Чуцен быў голас паэта". А ў межах кожнага раздзела даследчык аддае перавагу аналізу таго ці іншага накірунку творчасці Я. Коласа.

Найбольшую цікавасць выклікае першая частка кнігі — "Боль з народам дзяліў". Аўтар, карыстаючыся многімі крыніцамі, паказвае першыя дні ваеннага ліхалецця ў жыцці Я. Коласа і яго сям'і, імкнецца выбудаваць паслядоўную і цэласную карціну. Дапамагаюць у гэтым успаміны старэйшага сына паэта Данілы Канстанцінавіча, словы якога ўражваюць болей, чым часам іншы пераказ. У настрой, адчуванне вайны ўводзяць многія дэталі. Як і наступны, прыкладам, успамін: "Колас хацеў сустрэцца са старшынёю Саўнаркома Былінскім, які быў тут, але той яго не прыняў. Бацька сустрэўся ў лесе з кіраўніком спраў Саўнаркома Фадзеевым, расказаў пра сваё становішча. Фадзееў запэўніў бацьку, што яго з сям'ёю не пакінуць у лесе, а забяруць з сабою. Такое ж абяцанне даў і намеснік старшыні Саўнаркома Захараў.

Мы ўзялі ў міліцыянера рыдлёўку, выкапалі неглыбокія траншэі, накідалі туды яловых лапак і так пераначавалі там пад елкамі. Раніцаю на досвітку прачнуліся — нікога няма: ні машын, ні людзей. Здалёк толькі бачылі некалькі міліцыянераў з аховы, якія хутка адыходзілі. Члены ўрада з сем'ямі і абслугай зніклі немаведама куды. Пустымі аказаліся абяцанні Захарава і Фадзеева. Нас кінулі, і мы засталіся адны ў лесе. Дайшлі да паўстанка Азярышча, што быў непадалёку".

Шкада адно толькі, што М. Жыгоцкі не працягвае, не пашырае ўспамін Д. Міцкевіча. Не падкрэслівае характар стаўлення ўрадаўцаў да паэта, не акумуліруе ўвагу чытача на іх няшчырасці. Чаму б не даць характарыстыку ўсім гэтым Былінскім, Захаравым, Фадзеевым?

Ва ўспамінах Д. Міцкевіча сустракаюцца цэлыя кропкі, вартыя таго, каб занесці іх на літаратурную карту мясцін, звязаных з жыццём Я. Коласа. Чытаем у Д. Міцкевіча: "Выйшлі на станцыі Калодзішчы. Бацька хацеў разабрацца ў абстаноўцы, звязацца з начальствам, атрымаць інфармацыю.

прадказвае наперадзе вострыя сюжэтныя хады. Аўтар, мне здаецца, паставіў перад сабой задачу, якую не мог ставіць у аповесці "Такое кароткае лета": спалучыць псіхалагізм з сюжэтнымі інтрыгамі. Інакш кажучы, да добрага плюса (псіхалагізм) дадаць не менш важкі (займальнае дзеянне).

Мне ўяўляецца, што аповесць "Вёска" пісалася на адным дыханні, яна як бы выштукавана з аднаго кавалка моцнай пароды дрэва. Вядома, аўтар разумеў: у такім разе, калі дзеянне дынамічнае, падрабязнае апісанне дэталяў побыту немагчымае. Ды яно ў рэшце рэшт неабавязковае. Хаця — гэта моцны бок у творах Андрэя Федарэнкі.

А тут, у аповесці "Вёска", патрэбны ўжо вострыя вузлы, якія б трымалі і сюжэтную лінію, і цікавасць да зместу. Пісьменнік знайшоў іх, дакладней — здолеў завязаць. Найперш за кошт таго, што ўводзіць у тканіну твора вобразы Пульса і Ручкі, гэтых людзей, якія надаюць аповесці сваю акрасу. Каму-нікаму можа падацца, што і Пульс, і Ручка — гэта выдумка аўтара. Я катэгарычна супраць. Тут і праўда жыцця, магчыма — некалькі згушчаная, і творчая ўдача пісьменніка.

Параўнальна невялікі тэрмін выгнаннік прабыў у роднай вёсцы, дзе прайшло маленства. Па-новаму адкрылася яму жыццё. Ва ўсёй складанасці, у святле дабра і зла. Ён па-іншаму ўбачыў людзей, іх кругі жыцця на гэтай зямлі. Святло і цені, бескарыслівасць і зайздрасць, шчырасць і подласць — усе заганы і дабрадзейнасці адкрыліся наяве.

Варункі жыцця ў вёсцы, такога закінутага і занядбанага ўладамі, дзе многае трымаецца на старых людзях, такіх, як маці героя, уцягнулі яго ў свае глыбіні. Хаця ён і не здолеў сябе адчуць тут сваім. Работа ў бібліятэцы, адарваная ад асноўных клопатаў вяскоўцаў, не магла жывіць ідэалы, якіх некалі ў студэнцкія часы прагла душа. І яна пакрысе, але няўмольна пачала вянуць, бы кветка, пазбаўленая сонечнага святла.

Ці разумеў Антон дваістасць свайго становішча ў вёсцы? Вядома, разумеў і разважаў над ім. З аднаго боку — светлыя парывы, за якія выключылі з інстытута, і з другога — рэальнасць вясковага ўкладу, дзе давялося сутыкнуцца з абыякавасцю да маральна-духоўнага і шэрай будзёншчынай. Змяніць што-небудзь было цяжка, ды і Антон да гэтага не імкнуўся. Ён недзе падсвядома ўяўляў, што робіцца зусім не тое, але ў яго не ставала ні сіл, ні жадання перайначваць ні сябе, ні тым больш іншых.

Верагодна, менавіта запас трываласці, што застаўся ад вясковага мінулага, дазваляў герою аповесці неяк трымацца на паверхні. Нават моцныя выпіўкі з Пульсам у мінуты душэўнага надлому, нейкі ненатуральны "раман" з Наташай (хаця і тут ёсць свая логіка), і зусім выпадковыя дачыненні з Ірэн — усё гэта, аднак, не апускала яго ніжэй той рысы, за якой пачынаецца працэс разбурэння асобы.

Адчуваецца, што ў аўтара дастаткова цікавых назіранняў і паваротаў, каб снаваць псіхалагічную плынь аповесці. Але іншы раз падаецца, што ён спяшаецца, каб выказацца найхутчэй. Таму і ствараецца ўражанне канспектыўнасці асобных эпізодаў. У такім выпадку робіцца нестандартны сюжэтны ход, часцей звязаны з Пульсам, і паўната жыцця вяртаецца на старонкі аповесці.

Вёска, якую Антон бачыў знутры, была зусім не тая, што ў яго школьныя гады. Хаця, можа быць, ён зрабіўся іншым. Яму трэба было цяпер прымаць рашэнні і адказваць. Гэта была вёска Пульса і Ручкі, з іх няпростымі лёсамі. Гэта была вёска Наташы, летуценнай дзяўчынкі-школьніцы, якая ўжо многае ведала з дарослага жыцця. У пэўнай меры і вёска Ірэн, якая несла сюды гарадскія ачышчаныя ад маральнай адказнасці адносіны. Гэта — і найперш — была вёска яго маці, простай жанчыны-гаротніцы....

І ўсё-такі гэтая вёска, кранутая павевамі сучаснасці, праўда, не заўсёды самымі лепшымі, не страціла сваіх моцных сялянскіх асноў. Таму і не дае Антону зламацца. Ён тут у навальніцу, што прашумела над яго галавой, адагравае сваю душу.

Сельскі хлопец, Антон часта вяртаўся ў сваё мінулае, неаддзельнае ад вёскі, дзе яго маці. Там — маральная чысціня, якая падняла да разумення свайго месца ў жыцці. Таму і прыязджае ў вёску ў цяжкія мінуты. Яна ж зноў вярнула на той круг, якім наканавана ісці ў заўтра.

У моманты прасветленасці, калі асабліва востра адчуваецца незваротнасць часу, Антон задумваецца над вечнымі праблемамі. Найбольш глыбока — у заключных старонках аповесці, калі трэба ад'язджаць у горад у інстытут, дзе яго аднаўляюць. Што дала вёска? Які сэнс жыцця тутэйшых людзей? Ці ёсць яго віна перад імі?

У цяжкім роздуме Антон развітваецца з вёскай, з маці, з Пульсам, са сцежкамі свайго дзяцінства...

●

Так уладкавана, што праз сёння цячэ рака мінулага ў заўтрашні дзень. І ён, і Антон уступілі ў яе ў крытычныя моманты. Вёска, цудоўная мясціна, дзе цякуць тыя чароўныя рэчкі, падняла героя, не дала згубіць веру ў сябе. З ёю абодва ступаюць на новыя кругі свайго жыцця.

А рэчка мінулага працягвае свой бег. Праз сёння ў заўтра.

**Наталля КУЗЬМІЧ**

---

Віншуем!

# "ЁСЦЬ ПАТРЭБА БАЧЫЦЬ РОДНЫ ДОМ..."

## Віктару Гардзею — 50

Калі жадаеш акінуць позіркам шлях, пройдзены тым ці іншым творцам, адчуць сутнасць напісанага ім, канечне ж лепей напачатку звярнуцца да яго першай кнігі, бо менавіта ў ёй, магчыма, у нечым яшчэ і недасканалай, вытокі таго, што ў наступных творах, кнігах атрымае далейшае развіццё і асэнсаванне. Віктар Гардзей у гэтым сэнсе — не выключэнне. Акурат з першага паэтычнага зборніка "Касавіца" (1975) і пачалося для яго стварэнне свайго паэтычнага свету, у якім заўсёды ёсць месца спаконвечным матывам дабра, справядлівасці, лучнасці з бацькоўскай зямлёй, любасці да блізкіх людзей.

Ды і як жа інакш, калі прытрымліваешся паэзіі традыцыйнай, а яна ж — ад самой зямлі ідзе, а яна ўбірае ў сябе жыватворныя вытокі крыніц і яна ж напаўняецца жыццядайнымі промнямі сонца. Цяжка ў такім разе часам сказаць нешта сваё, новае. Але ж на тое і дадзены талент, каб, прабіўшыся скрозь звыклае, выявіць нерушавасць, непаўторнасць. І пры гэтым спрацоўвае зусім не сама тэма, а тое, як пададзена яна і як раскрыта. Таму і пададзенае неаднойчы, калі яно прапушчана праз светаўспрыманне па-сапраўднаму самабытнага мастака, пазбаўляецца другаснасці. На паверхню выходзіць толькі сваё...

Прыклад таму — хоць бы гэты верш В. Гардзея — "Начное неба":

**Вылежвалася днём,**
**няйначай,**
**Яно, нібы папар, і ўжо**
**Маладзічок**
**у хмарках скача,**
**Як па няўдобіцы плужок,**

**Па ім прыціхлы вечар сее**
**Мільёны год мільёны зор.**
**Начное неба, — як засевак,**
**Дзе ні абмежкаў, ні разор.**

**Маладзічок лязо**
**не сплюшчыць,**
**Арэ ўсё неба, як папар,**
**Затым яшчэ**
**і поўня лушчыць**
**Пасля яго палянкі хмар.**

Не магу дакладна сказаць — з гэтага твора ці з нейкага іншага пачалося па-сапраўднаму захапленне паэзіяй В. Гардзея — усё ж чытаеш шмат і з цягам часу пэўныя дэталі забываюцца. Як і не магу пэўна засведчыць, што яго першую кніжку прачытаў якраз па выхадзе яе. Магчыма, адбылося гэта і значна пазней. Тады ўжо, калі прачытаў наступныя — "Вероснае палясоўе" (1978), "Засевак Радзімы" (1983)...

Дый не так важна гэта, істотней іншае... Чым бліжэй знаёміўся з паэзіяй В. Гардзея (а ў 1983 годзе, калі паэт пачаў працаваць у рэдакцыі часопіса "Беларусь", адбылося і наша асабістае знаёмства з ім), тым больш станавілася на душы не толькі радасна, але і неяк прыкра. Правільней сорамна з-за сваіх калег-крытыкаў, якія, надта ж налаўчыўшыся складаць розныя "абоймы", чамусьці "забыліся" знайсці ў іх месца і В. Гардзею. І зусім не таму, каб некага не прапусціць, кагосьці не пакрыўдзіць, трэба было б гэта зрабіць. Зусім не... Ён жа таго па праву заслугоўвае... Хоць, калі разабрацца, і крытыкаў у нечым можна зразумець. Яны ж людзі жывыя і ў сваім часе кожны жыў, а лепей жылося, калі называліся тыя, каго, па неафіцыйнай завядзёнцы, і трэба было называць...

Ды хопіць пра гэта! Ці не лепей, выкарыстоўваючы перадюбілейную магчымасць, нарэшце выказаць радасць, што ў нас ёсць такі цудоўны паэт — Віктар Гардзей. І, акрамя названых кніжак, згадаць яшчэ колькі, што таксама напісаны ім таленавіта, адметна — "Незабудкі азёр" (1985), "Узрушэнне" (1988), "Дзікая пчала" (1994).

А ў апошнім з іх не толькі новыя творы, а і напісаныя раней, ды па розных прычынах у папярэднія кніжкі яны не змаглі патрапіць. Прытым напісаныя ў самым юным, найбольш, можа паэтычным узросце, калі за плячыма ўсяго нейкіх дваццаць гадоў. І ўвесь белы свет становіцца табе надзвычай вабным, але гэта ні ў якім разе не перашкаджае знайсці ў ім таго адзінага чалавека, якому хочацца і песні спяваць і творы прысвячаць.

Колькі свежасці, светласці ў гэтых ранніх вершах В. Гардзея?! Той свежасці і светласці, што і з цягам часу не губляецца, не растрачваецца, бо ўсё гэта не проста прамоўленае аднойчы, а выказанае па неабходнасці. У рэшце рэшт, такая і ўся паэзія В. Гардзея....

Мо таму апошнім часам і піша ён вершаў меней, чым дагэтуль, што душу апаноўвае тое незразумелае, што не дазваляе прамаўляць вершамі? Мо і забывае пра рыфмы, што куды больш прыцягваюць увагу суровыя будні. І сённяшнія — такія невытлумачальна-складаныя і да канца незразумелыя; і колішнія, якія засталіся быццам за смугой часу, але якія моцна трымае ў сабе ўчэпістая дзіцячая памяць і цяпер, на адлегласці гадоў, яны бачацца і ўспрымаюцца ў многім інакш, чым калісь, таму і з'яўляецца жаданне пра ўсё расказаць.

Таму В. Гардзей і піша апавяданні, аповесці, а нядаўна з-пад яго пяра з'явіўся і раман "Бедна басота". Раман створаны на блізкім аўтару матэрыяле — узнаўляецца жыццё заходнебеларускай вёскі пасляваеннага часу, а менавіта тады ў гэтых мясцінах праходзіла калектывізацыя. Пра тое, як ламаўся звыклы ўклад жыцця і ламаліся людскія лёсы, і расказаў ён псіхалагічна праўдзіва, заглыблена. І разам з тым расказаў з нязменным для яго гума-рам. Гэткім дасціпным, калі знаходзіцца і месца пэўнай іроніі, сям-там і сатыра дае аб сабе знаць, але на першы план нязменна выступае любасць да людзей ад зямлі, да вяскоўцаў, да мілых сэрцу палешукоў.

А яны ж, героі рамана, як і героі іншых празаічных твораў пісьменніка, як правіла, яго землякі. Што ні характар то ўзяты з самога жыцця. Найчасцей з роднай В. Гардзею вёскі Малыя Круговічы, што на Ганцаўшчыне, дзе ён нарадзіўся і дзе прайшло яго маленства. На добра знаёмым аўтару матэрыяле напісана і аповесць "Жыта ганьбу не заслоніць", што ўвайшла ў яго другую кнігу прозы "Карані вечнага дрэва" (1988). Перад гэтым быў цікавы зборнік "Дом з блакітнымі камяніцамі" (1984), але, як мне здаецца, менавіта другой сваёй кнігай В. Гардзей заявіў аб сабе як



аб празаіку, які добра ведае жыццё, умее са шматлікіх фактаў і выпадкаў выбіраць у ім тое, што і заслугоўвае пільнай пісьменніцкай увагі. А яшчэ ў лірычных адступленнях ён умее заставацца паэтам, тым лірыкам у прозе, талент якога нязменна дорыць радасць.

Што да самой аповесці, дык у ёй значны па сваёй напоўненасці вобраз самога Жыта. Жыта — гэта і ўсё прыгожае, светлае, узвышанае, што заўсёды было, ёсць і будзе ў жыцці. Паэтызуючы народны побыт, В. Гардзей не хавае свайго захаплення народнымі традыцыямі і звычаямі. І ў той жа час ён не праміне сказаць, як цяжка даецца селяніну яго спрадвечны хлеб, і як шмат знаходзіцца наўкола ахвотнікаў вучыць земляроба. Тым самым у аповесці прысутнічае і ўнутраная публіцыстычнасць. Тым самым відочны клопат аўтара аб зберажэнні ўсяго трывала-зямнога, на чым і мацуецца жыццё.

Адзін з апошніх твораў В. Гардзея-празаіка — аповесць "Ці то грэбля, ці то гаць". Таксама ў нечым напісана на аўтабіяграфічным матэрыяле. І гэтаксама, як і ў ранейшых творах, у ёй шмат досціпу, іроніі. І, канечне ж, знаходзіцца месца паэзіі. У паэтызацыі будняў вясковага, сялянскага, няхай і цяжкага жыцця. У паэтызацыі маленства, як самай светлай пары ў жыцці чалавека, якія б нягоды і якія б нястачы не падсцерагалі яго.

Дарэчы, В. Гардзей з тых, хто ў сваёй творчасці не забывае пра самых маленькіх. Пацвярджэнне таму яго паэтычныя зборнікі "Чырвоны грабеньчык" (1976), "На арэхавай палянцы" (1982), "Коцікі на вярбе" (1988), "Мой тата — трактарыст" (1988), "Зай, які лічыў варон" (1992)...

У адным з вершаў, змешчаных у зборніку "Касавіца", тады яшчэ малады паэт прызнаваўся:

**І заўсёды**
**ў выраі не блізкім**
**Ёсць патрэба**
**бачыць родны дом:**
**Да зямлі сваёй**
**хілюся нізка**
**Ластаўкай перад дажджом.**

Гэты выраз "Ёсць патрэба бачыць родны дом" у дачыненні да В. Гардзея набывае сёння больш шырокі сэнс. У яго жыцці і творчасці нязменна прысутнічае патрэба бачыць родную Беларусь. Беларусь, як той дом, у якім жыць усім нам разам. І які будаваць супольна. У меру таленту кожнага.

Што і робіць паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

Яшчэ ўлетку 1924 года мы праводзілі летні адпачынак у Лагуноўскіх — сялян вёскі паблізу Калодзішчаў. Накіраваліся спачатку туды..." Чаму б не спыніцца падрабязна на гэтай акалічнасці? Вось яны — Калодзішчы, побач з Мінскам. У "Анамастычным слоўніку твораў Якуба Коласа" чытаем: "Калодзішчы... В. у Мінскім р-не, дзе летам 1924 года жыла сям'я К. І там у п.да М. Д. Міцкевіч, М. Лынькова.., І. Ю. Міцкевіча..." І яшчэ: "Лагуноўскія... Сяляне з в. Калодзішчы, у якіх сям'я К. жыла летам 1924. І там у п. да М. Міцкевіч..."

Пройдзе яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў і коласаўцы будуць шукаць хоць нейкі факт-зачэпачку, каб у падрабязнасцях расказаць пра сям'ю Лагуноўскіх, у дэталях узнавіць знаходжанне Я. Коласа ў Калодзішчах. Сёння ж пра гэта можна мімаходзь. Маўляў, час дазваляе. Каб жа заўтра не было позна. І тут заўвага не гэтулькі да М. Жыгоцкага, колькі да многіх аўтараў, якія з артыкула ў артыкул паўтараюць у агуле вядомую інфармацыю. Драбнічкі ж — дзе? Чаму няма дэталяў? Заўважу наступнае: у гэтым плане больш, калі так можна сказаць, пашчасціла Я. Купалу і нават М. Багдановічу. Варта ўспомніць кнігі У. Содаля, Г. Каханоўскага. Яны выхадзілі, сабралі многія сведчанні-памяткі. Вось бы гэтак і ў дачыненні да Я. Коласа.

Напрыканцы першага раздзела М. Жыгоцкі звяртаецца да няскончанай аповесці Я. Коласа "Зямля заве", падае ўрывак, які ў свой час друкаваўся ў "Літаратуры і мастацтве". Але ізноў — "чаму" аўтар не расказвае падрабязна! — пра характар, змест задумы? Увогуле ўжо першы раздзел кнігі М. Жыгоцкага запэўнівае ў правільнасці наступнай высновы: дасведчаны коласазнаўца знаходзіцца як быццам на раздарожжы. З аднаго боку, пераказваючы творы песняра, даючы некаторыя характарыстыкі, ацэнкі вершам, публіцыстыцы, М. Жыгоцкі як быццам прэтэндуе на пэўны літаратуразнаўчы аналіз. З другога боку, аўтар даследавання імкнецца насыціць кожны з раздзелаў кнігі разнастайнай інфармацыяй, многімі фактамі, але не зважае на адну істотную акалічнасць: агулам, без дэталяў, інфармацыйна, суха выкладзеныя факты "не працуюць", не ўражваюць.

Найбольш удалым раздзелам можна лічыць "Чуцен голас паэта". Перыпетыі жыцця Я. Коласа ў Ташкенце выкладзены даволі падрабязна. Праўда, і тут можна было б пайсці далей. Адна гісторыя супрацоўніцтва Я. Коласа з "Фрунзевцем" — газетай Туркестанскай ваеннай акругі чаго варта! М. Жыгоцкі ж згадвае не адрас, але зусім не даследуе маршрут Я. Коласа з дома на Пушкінскай да вуліцы Сапёрная, дзе размяшчалася рэдакцыя. А сяброўства паэта з перакладчыцай Святланай Сомавай? Чаму пра гэта не піша М. Жыгоцкі? Увогуле кнізе не стае займальнасці, эмацыянальнага бачання, суперажывання.

І ўсё ж зроблена варта ўвагі. Кніга "У цяжкі час вайны суровай" дапаможа вызначыць абсягі пошукаў, падкажа план далейшых дзеянняў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# ЧОРНЫ ГРАД



АПАВЯДАННЕ

“Паважаная Марыя Антонаўна! Шкада, што ў Вас няма тэлефона. Таму пішу ліст. Разумею, Вы чакаеце адказу...”

Сяргей Аляксеевіч акуратна вывеў чорнай шарыкавай ручкай, якую прывёз з-за мяжы сын Віктар, першыя радкі. Раптам рука здрыганулася, слова “адказу” атрымалася невыразным: літара “к” растапырылася, нібы “н”, а літара “з” прыхінулася занадта блізка да буквы “у” — непрыгожа і невыразна.

А ён, Сяргей Юркевіч, батальённы пісар, меў надзіва прыгожы почырк. Не сапсавалі яго і дзесяцігоддзі працы настаўнікам матэматыкі. Калегі зайздросцілі яму, нават жонка Еўдакія Ігнатаўна, якая выкладала беларускую мову і літаратуру, часам гаварыла: “Мне б твой почырк...”

І вось няма Еўдакіі Ігнатаўны, першай, адзінай і апошняй яго любові. Усё ў гэтай кватэры нагадвала пра яе, усё нажывалі разам...

Успаміны агарнулі Юркевіча. Адклаў убок ручку, зняў акуляры, дастаў скамечаную хусцінку, выцер няпрошаную слязу. Сумна ўталопіўся за акно. А за акном па кальцавой шашы грукаталі машыны. Улетку высозныя таполі, купчастыя ліпы густой лістотай захіналі шэрую асфальтоўку, прыцішалі грукат, паглыналі смурод. Цяпер голыя дрэвы стылі на сакавіцкім ветры, снег толькі растаў, але сям-там яшчэ чарнеўся брудна-шызымі лапікамі. За дарогаю курганілася голае шэрае поле.

І Сяргею, і Еўдакіі падабаўся раён, у якім яны атрымалі кватэру. З акна кухні адкрывалася панарама вялікага горада, а з акна, што ў пакоі, — шаша, мост, які нагадваў спіну велізарнага асьмінога: на яго ўзбягалі і збягалі ў розныя бакі шчупальцы-дарогі. А яшчэ здавалася, што мост каранямі-асфальтоўкамі ўрастае ў зямлю. За полем цямнеўся лес. “Мы жывём адначасова і ў горадзе, і ў вёсцы”, — гаварыла Еўдакія.

Ніколі не думаў Юркевіч, што дажываць свае дні давядзецца аднаму, між чужых людзей, у вялікім горадзе, што мусіць пакінуць прыгожую, як лялька, хату-пяцісценку, якую збудаваў уласнымі рукамі, абшаляваў вагонкаю — у гэтай рабоце пасаблялі сыны Андрэй і Віктар. Сыны выдатна вучыліся, абодва скончылі школу з медалём, былі рослыя, русявыя, статныя, вельмі падобныя на бацьку.

І хата Юркевічаў, і сям’я былі ці не самымі лепшымі ў вялікай вёсцы Вішнёўка. Сяргей Аляксеевіч і Еўдакія Ігнатаўна працавалі настаўнікамі. Дзеці паканчалі інстытуты, малодшы Віктар абараніў кандыдацкую дысертацыю, старэйшы свабодна валодаў англійскай, нямецкай і французскай мовамі, калясіў па свеце ў складзе дыпламатычных місій.

— Юркевічавы сыны — галавастыя хлопцы, — з пашанаю, з прыхаванаю зайздрасцю казалі суседзі.

Праўда, іншы раз пасміхаліся, што настаўнік Юркевіч сам доіць карову, а жонка ў гэты час глядзіць тэлевізар, а то прыкінецца хвораю і ляжыць на канапе з газеткаю. Суседзі не верылі ў яе хваробу, бо з твару была яна гладкая, у меру поўная, а вялікія цёмна-шэрыя вочы пазіралі на свет і людзей без асаблівага суму. Якая тут можа быць хвароба! Лянота, і ўсё.

Спачатку гэтак думаў і Юркевіч, калі жонка жалілася, што баліць галава, цісне сэрца. Але аднойчы яны мыліся ў лазні. Сяргей адхвастаў сябе бярозавым венікам, ён заўсёды парыўся сам, нават сынам не давяраўся, хоць іх сцёбаў са смакам. Жонка па першым часе дужа баялася духу, потым прывыкла, ахвотна лезла на палок. Ды і парыў яе муж ашчадна, ласкава махаў венікам, быццам закаханы кавалер над прыгажуняй-княжной веерам.

— Сяргейка, дос... Ліні халоднай вады. Хутчэй пырсні, — здушана прастагнала Еўдакія.

Апусціў венік у сцюдзёнку, пырснуў на жонку, а тая і галаву адкінула. Перапалоханы Сяргей зняў жонку з палка, паклаў на падлогу, падсунуў венік пад галаву, пачаў рабіць масаж сэрца набіраў у рот халоднай вады і пырскаў. Аблітае потам жончына цела, такое роднае, знаёмае, зрабілася раптам чужым і халодным. Нарэшце Еўдакія расплюшчыла вочы.

— Не пырскайся... А дзе гэта я? Ой, гэта ж мы ў лазні. Нешта галава закружылася. Вобмарак павёў... Не палохайся, Сяргейка, ужо добра. Усё прайшло...

Пасля таго яна і сказала:

— Сяргейка, трэба табе навучыцца карову даіць. Ці мала што якое. Навошта, каб жывёла пакутавала. Чалавек можа пацярпець. А карову як не падоіш раз-другі, то і прапала...

— Трэба табе лячыцца, Дуся. На курорт з’ездзіць. Давай будзем адкладваць грошы. Ты чырвонец, я чырвонец. І назбіраем.

Назбіралі. І аддала Еўдакія грошы Віцьку. Кандыдат навук, а касцюма людскага не мае. Няхай купіць сабе якую апранаху. Каб студэнты з яго не смяяліся.

— А ты забыла, як пасля вайны ў школу хадзіла ў салдацкім бушлаціку? Маладая настаўніца... А я ў шчыняльку...

— Другі час. Усе былі голыя, галодныя.

А потым пайшлі ўнукі. Зноў адкладвалі грошы, куплялі падарункі, гасцінцы. Курорты, санаторыі ўсё аддаляліся, быццам белы цеплаход у бурлівым моры. І ўсё ж да раённых медыкаў Сяргей жонку завёз. Там абгледзелі, паслухалі, зрабілі аналізы і вынеслі прысуд: застарэлая стэнакардыя, расшырэнне левага жалудачка сэрца.

— Хваробы сэрца лечыць жыццё. Ад вас, Сяргей Аляксеевіч, залежыць, як доўга вы будзеце жыць разам. Вашай жонцы патрэбен спакой, свежае паветра. Добры настрой. Грудная жаба — хвароба капрызная. Але і з ёй людзі жывуць. І нават да глыбокай старасці, — суцяшаў доктар, стары, лысы, з круглай, як більярдны шар, галавой. — Паболей есці яблыкаў. Прагульвацца каля рэчкі...

— Во-во, з мужа і так смяюцца, што карову доіць пры жывой гаспадыні, — уздыхнула Еўдакія Іганатаўна.

— На чужы раток не накінеш платок. Калі хочаш яшчэ пажыць, трэба берагчыся. Гэта не значыць, што вы павінны сядзець, склаўшы рукі, глядзець тэлевізар. Ні ў якім разе! Тэлевізар — ваш крэўны вораг. Трэба болей хадзіць. Але рухацца ўлегцы. І галоўнае — з добрым настроем. З лёгкім сэрцам, — настаўляў доктар.

— Возьмемся пад ручку і пойдзем да Бесядзі, — сумна ўсміхалася Еўдакія Ігнатаўна. — Суседзі пальцам будуць паказваць...

— Ну і няхай паказваюць! А мы возьмем вуды — і на Бесядзь. Мы сваё адрабілі, — падтрымаў дактара Юркевіч.

— А хто будзе сена касіць? Агарод палоць? Лебядой усё зарасце, — не здавалася Еўдакія.

●

Яшчэ болей гаспадарчых клопатаў узваліў на свае плечы Юркевіч. Касіў сена, калоў дровы, палоў грады, увосень капаў бульбу. Еўдакія таксама капала. Ён пільна сачыў за ёй, баяўся пакінуць адну на полі. “Перабірай гатовую. А я буду вазіць”, — браў мех бульбы, уладкоўваў на веласіпед, і айда. Сам ідзе, а мех едзе. Бо ў саўгасе то каня няма, то запрэгчы не было ў што.

Еўдакія шкадавала мужа, з усіх сіл імкнулася памагчы. Неяк вярнуўся Сяргей з лесу — нарыхтоўваў дровы, адвёў ляснік дзялянку: прарэджвай бярэзнік, што высечаш, тое тваё. Трапляліся і ладныя бярозкі. Голле абсякаў, скідваў у лаўжы, а дровы — у штабялі. Намахаўся за дзень сякераю — ні рук, ні ног. Глядзіць — на двары калёсы стаяць.

— Адкуль гэта? Чые калёсы? — пытаецца ў жонкі.

— Цяпер нашы. У Ахрэма купіла. За семсот рублёў.

— Такія грошы ўпёрла, — уздыхнуў Сяргей. — За семсот рублёў хату можна купіць.

— Хата ў нас ёсць. Хай і калёсы будуць. І вупраж знойдзецца.

Шкада было грошай, але ў глыбіні душы варухнулася радаснае пачуццё: свае калёсы, не трэба кланяцца брыгадзіру. А коней хапае. Заўсёды можна ўзяць.

На вялікі жаль, калёсамі карысталіся нядоўга. Выбухнуў чарнобыльскі рэактар, і чорнае воблака накрыла сваім жахлівым смяртэльным крылом зялёную ўтульную Вішнёўку.

Пра аварыю даведаўся Юркевіч з экрана тэлевізара: праграму “Час” яны з Ігнатаўнай глядзелі. Настаўнікаў заўсёды, асабліва ў вёсцы, называюць па імені і па бацьку, яны так прывыкаюць да гэтага, што часам і ў сям’і называюць сябе, як і ў школе. Калі Юркевіч гутарыў з суседзямі, то язык не паварочваўся сказаць: мая жонка. Ён гаварыў: мая Еўдакія Ігнатаўна, або — мая Ігнатаўна. Яна таксама звала яго Сяргеем Аляксеевічам. Дык вось, дыктар, сімпатычная, прывабная жанчына, неяк таропка прачытала з паперкі, што ў ноч на 26 красавіка адбылася аварыя на атамнай электрастанцыі, персанал станцыі і пажарнікі патушылі пажар, радыяцыйнай небяспекі няма.

— Дзе гэты Цярнопаль? — спытала жонка.

Сяргей Аляксеевіч таксама выразна не пачуў назву атамнай станцыі і таму прыняў жончыну версію.

— Цярнопаль? Далёка. За Кіевам. Бліжэй да Заходняй Украіны.

Яны не прыдалі ніякага значэння гэтаму паведамленню. Цалюткі дзень корпаліся ў агародзе, намарыліся — пасеялі моркву, пасадзілі часнок, балазе стаяла вельмі цёплае надвор’е. А яшчэ быў прыемны клопат: чыкалі старэйшага сына Андрэя, які два гады адпрацаваў у Эфіопіі. Сын прыехаў назаўтра, адпачыў з дарогі, пахадзіў па вёсцы, а яна ўбіралася ў зеляніну, весела шпокалі шпакі, свісталі ў бліжнім лесе дразды, заліваліся трэлямі берасцянкі, ценькамі сініцы.

Сын, хударлявы, загарэлы да чарнаты, усё не мог нацешыцца роднымі мясцінамі. А бацькі не маглі наглядзецца на свайго сына.

— Учарнеў ты, сынок. Сам негрытосам станеш, — з любасцю пазірала на Андрэя маці.

— Мяне там амаль што за свайго прымаюць, — бліскаў белымі роўнымі зубамі Андрэй. Не бачыў ён у дзяцінстве цукерак, затое шчаўя, цыбулі і яблыкаў еў ад пуза, таму і зубы меў без карыесу.

— Бацька, а можа, сходзім на рыбалку? Вуды ёсць. Спінінг такі хвацкі прывёз.

Бацька разумеў сына, ды і сам любіў пасядзець з вудаю. Вырашылі ісці далей, аж пад Лысую гару, там пераначаваць.

— Ночы яшчэ золкія, ядраныя. Адубееце ля ракі, — пачала адгаворваць Еўдакія.

Ды дзе там! Бацька і сын пад вечар пашыбавалі да Бесядзі.

Тую ноч Юркевіч помніць як сёння. Рыба бралася добра. Неўзабаве нацягалі на юшку. Расклалі цяпельца, зварылі духмяную юшку — настаўнік быў адмысловым майстрам гатаваць рыбацкую страву.

Амаль да раніцы праседзелі каля вогнішча. Сын расказаў пра жыццё ў Афрыцы. І ўсю ноч над прыбяседскім лесам гулі самалёты.

— Чаго яны разлёталіся? Вучэнні, ці што? — дзівіўся сын.

— Відаць, начныя палёты. Тут жа пад Крычавам ваенны аэрадром, — спакойна тлумачыў бацька. — Я доўга не мог прывыкнуць да самалётаў. Як пачую іхні гул у небе, так мяне пачынае трэсці...

Бацька расказаў, як у сорак першым іхні пантонны батальён прабіваўся з акружэння. Пад Слонімам навялі за ноч пераправу цераз Шчару для адступаючых войскаў. Уранні наляцела зграя нямецкіх самалётаў. Пачалі бамбіць. Юркевіч паспеў выскачыць з машыны, у якую патрапіла бомба. Яго адкінула ўбок, засыпала зямлёй. Ачнуўся — над ім стаяў немец, ботам тоўхаў пад бок, потым наставіў аўтамат, загадаў уставаць. Паранены, кантужаны, Юркевіч трапіў у палон.

— А што далей, бацька? — дапытваўся сын.

— А далей канцлагер пад Беластокам. Колькі там загінула людзей! І я б сканаў, калі б не зямляк Васіль Андруховіч. Загінуў, бедалага, у Маньчжурыі. Дык вось, ён пазнаў мяне. “Давай, братка, трымацца разам. Мой знаёмы поварам працуе. Цімохам яго завуць”. Здаравенны хлопец. Немцы ставілі поварамі здаровых мужыкоў. Ну і мы, бывала, ноччу ці пад раніцу прыходзілі на кухню. Чарпак баланды ліне, хлеба лусту суне... Потым пагналі нас на станцыю. Каманда — грузіцца ў эшалон. Цімох на развітанне даў нам па бохану хлеба. Каб не той бохан, да Нямеччыны б я не даехаў.... На кожнай станцыі выгружалі мерцвякоў... А ў Нямеччыне загналі ў шахту. Вугаль здабываць. І там людзі мёрлі як мухі. І я б, можа, загнуўся. Выручыў немец-майстар. Я цікавіўся нямецкай мовай, пытаўся ў яго, як што завецца па-іхняму. Хутка запамінаў. Памяць была ўчэпістая. Яму гэта падабалася. “Гут, юнге, гут”, — падхвальваў мяне. Аднойчы кажа: ягонаму суседу, баўэру, патрэбен рабочы, ці ўмею я касіць, з канём абыходзіцца... Так я трапіў да баўэра. Трохі ад’еўся, прыадзеўся. Майстар папярэдзіў: у баўэра ёсць дачка-нявеста, калі яе зачэпіш, адразу павесяць... А яна пачала на мяне пазіраць як кот на сала. А я баяўся яе як чорт ладана. Абыходзіў, каб не сустрэцца. Стары быў задаволены мной. Так і дачакаўся канца вайны. Вызвалілі амерыканцы. Праз увесь Саюз павезлі на Далёкі Усход. Дабіваць Японію. Ды страляць ужо не давялося. Японія заявіла аб капітуляцыі. Адтуль — у Караганду. На шахты. Толькі цяпер пад зямлёй працавалі палонныя немцы. А я быў за перакладчыка і за пісара. Накатаў ліст у Мінск, у Міністэрства асветы. І як настаўніка, адпусцілі дамоў...

Раней Юркевіч вельмі неахвотна апавядаў пра вайну, асабліва пра палон. Ды і дзеці былі малыя. Вядома, сёе-тое яны ведалі, нейкі час Юркевіч нават выкладаў нямецкую мову, бо лепшых “знатакоў” не было. Ён і прыахвоціў старэйшага сына да вывучэння замежных моў.

— Вось, бачыш, сынок, на якія ўспаміны навялі самалёты... А на левае вуха я да гэтага часу недачуваю. Кантузія... Кладзіся, Андрэй, паспі трохі. А я пайду вуды гляну...

Тым часам ужо развіднела. З невялікай хмары пасыпаў дождж, ды з градам. На мокрым белавата-шэрым пяску ўбачыў Юркевіч некалькі градзінак. Яны былі чорныя. Падняў, прыгледзеўся: дробныя халодныя льдзінкі свяціліся знутры бліскучай чарнатой. “Ніколі не бачыў, каб град быў чорны”, — падзівіўся настаўнік. Потым сказаў пра гэта сыну — паказаць іх не мог, град хутка растаў.

— Чаму дзівавацца? У Еўропе вунь ідуць кіслотныя дажджы. Можа, і да нас якую хмару прынесла, — прамовіў сын.

Тады пра чорны град Юркевіч хутка забыўся, нават жонцы нічога не сказаў пра свае назіранні. Неўзабаве ўсё настойлівей пачалі гаварыць пра высокую радыяцыю, пра тое, што на Гомельшчыне адселена шмат вёсак. У канцы лета прыехалі ў Вішнёўку салдаты, пачалі здымаць вакол школы верхні слой зямлі. Юркевіч разгаварыўся з афіцэрам — маладым каржакаватым капітанам. Ад яго пачуў, што ў Вішнёўцы трыццаць два кюры, яблыкі есці нельга, грыбы і ягады — таксама, і малако піць нельга. Асабліва малым дзецям.

Гэтыя словы вайскоўца, нібы камяні, білі ў сэрца. І падалося Юркевічу, што ён зноў трапіў у палон. Толькі цяпер разам з жонкай, з усімі вішнёўцамі.

Пра ягады і грыбы, што іх нельга збіраць, ён сказаў Ігнатаўне, а пра малако і яблыкі — язык не павярнуўся, ды, можа, памыляецца вайсковец. Калі б сапраўды так было, то чаму б ім не сказалі мясцовыя ўлады? А тым часам у краме раптам зніклі кансервы. Умомант размялі вяскоўцы: і рыбныя, і “сняданне турыста”, і розныя салянкі. Пачалі прыводзіць мінеральную ваду, чырвонае віно і гарэлку.

Нарэшце падалі голас улады: загадалі здаваць кароў, бо малако ўжываць нельга. У каго малыя дзеці — загад абавязковы, а пенсіянерам — па іхнім жаданні.

— А сена куды? Нарыхтавалі тры тоны. А буракі, бульбу? — нібы пытаўся ў таго начальства, разважаў Юркевіч.

— Не будзем здаваць Красулю. Якое жыццё ў вёсцы без каровы? Вунь у раёнцы напісана, што і з “бруднага” малака выходзіць чыстае масла. Значыць, і смятана чыстая. Мусіць, гэтыя нукліды асядаюць на дне. Яны ж цяжкія. Во зараза нейкая прычапілася. За якія грахі такая бяда на нашу галаву? — уздыхала Еўдакія.

(Працяг на стар. 14-15)

касць журналістаў, дык на кожны акрэдытаваны азадак прыпадзе менш за 4 см. Таму галоўныя "творчыя спрэчкі" разгараюцца менавіта тут. Нешчасліўчыкам застаецца ісці альбо на "балкон", адкуль не бачна, што спяваюць "пад фанэру", альбо з гора — у арт-бар, альбо наогул у прэс-цэнтр — у чаканні чарговага нумара фестывальнай газеты "Славянскі базар", адкуль можна пазычыць уласныя ўражанні, ці ў чаканні чарговай порцыі прэзентаў, якія могуць "выкінуць" чарговыя фірмы.

Каб не "выкінулі" чаго-небудзь самі журналісты, сярод іх і праводзяць конкурс-бліц, які я згадвала. Галоўным становіцца фіксацыя "тысячы і семнаццаці" імгненняў фестывалю, цэніцца работа аператыўная, а не "аперацыйная", з пошукам дыягназу базарных хворасцяў.

У выніку складаецца ідэальнае асяроддзе для існавання на фестывалі кітчу, напаўпрафесіяналізму, безгустоўнасці. Іх праявы, атрымаўшы знак прыналежнасці да "СБ", рэкламуюцца, у тым ліку прэсай, на роўных з сапраўдным мастацтвам. І біццё ў літаўры заглушае голас чароўнага вібрафона. Што рабіць, група ўдарных такая неаднародная! Побач з інструментамі з дакладнай гукавысотнасцю ёсць прадстаўнікі "недакладныя", якія толькі і ведаюць, што "дзінькнуць" ці "прафанфарыць". І калі ў французскага авангардыста П'ера Булеза ёсць твор з назвай "Малаток без майстра", дык нашым базарным "малаткам" (і малодкам) Майстар проста неабходны. Калі не булгакаўскі, дык усё роўна з вялікай літары. Бо пакуль што найгалоўнымі на "СБ" адчуваюць сябе менавіта

## МЕДНЫЯ ДУХАВЫЯ.

Так, спадарства: тры трамбоны, як цяжкая артылерыя, з лёгкасцю перакрываюць увесь аркестр — колькі б ні пужалі інтэлігенткі-скрыпкі, што з гора перапілуюць сябе па таліі. Як кажуць, супраць медзі хто ж паедзе! Асабліва супраць такой тр-р-р-амба-навасці, як Маша Распуціна, якая сваёй даўганогасцю вянчала ўвесь фестываль і дасылала прывітанні з пацалункамі нашаму Прэзідэнту.

Зразумела, расійская "каманда", як і заўсёды, была вельмі прадстаўнічая і па колькасці, і па зорнасці. І па "геаграфічным становішчы", прабачце. Бо шырока выступала ў самых прэстыжных канцэртах, шчодра пакідаючы беларускім артыстам нетрансляцыйныя пляцоўкі на плошчы Свабоды. У Культурна-Дзелавым Цэнтры праходзіў сольнік "Сяброў", які заўважыла БТ і ніхто з замежных журналістаў. Але справа не толькі ў тым, якія дзе інструменты граюць, але і якую партыю яны вядуць: драматызавана-ваенізаваную галоўную — ці пабочную тэму кахання. І калі ўлічыць, што ў фіналах лірычная партыя часта набывае гімнічна-патрыятычную афарбоўку, нібы працягваючы галоўную, дык афіцыйнае заканчэнне фестывалю "іхняй Машай" глядзелася вельмі лагічным. Як, дарэчы, і фінал выступлення І. Кабзона з музычным "жарцікам" — інструментальнай фразай знакамітай песні, якая ў арыгінале ідзе са словамі "У Советской власти сила велика".

Расіяне паўсталі не толькі вялікай "зорнай" сілай, але і магутным стылёвым пластом, прадыктаваўшы ўсяму фестывалю галоўны стылёвы кірунак.

Больш дакладна, такіх кірункаў было два. Першы, наймагутны — рэтра. Ужо сам падбор выканаўчых імёнаў нагадваў святочныя канцэрты эпохі застою. Шматлікія госці з былога "сацлагера" запрашаліся па гэткім жа самым прынцыпе.

Не, я зусім не супраць рэтра! Асабіста я ўспрымаю яго амаль сінонімам неакласіцызму. І добрым знакам таго, што эстрада, нарэшце (як, дарэчы, і мода) пачынае адчуваць сябе не аднадзённым ужытковым жанрам, а мастацтвам, у якім на роўных суіснуюць дзве тэндэнцыі: разбуральная, з яе неадольным імкненнем наперад — і ахоўвальная, з яе мудрым позіркам назад.

Але ж калі прызнаць эстраду мастацтвам, дык трэба пакінуць ёй права на ўласнае жыццё, на ўласную гісторыю. І не блытаць гэтую гісторыю з гісторыяй палітычных плыняў. А наш "СБ", на жаль, грэшыць менавіта гэтым. І, пры ўсёй яго "базарнасці", робіцца ўсё больш палітызаваным. І, прабачце, "мілітарызаваным".

Не, я не пра колькасць аховы, што час ад часу паўстае жывой сцяной паміж сцэнай і гледачамі. Я — пра самі песні, пра найцікавае суладдзе ў многіх з іх вольна-казацкай тэматыкі і музычнай стылістыкі песень грамадзянскай вайны. Гэты творчы сіндыкат я лічу галоўнай стылістычнай заваёвай, да якой "СБ" паступова і ўпэўнена крочыў усю пяцігодку.

"Казачка Надзя" па прозвішчы Бабкіна стала не толькі штогодняй госцяй "СБ", але і нечым накшталт яго сімвалу. Сёлета "казакаў" на "СБ" значна паболела. З'явіліся не толькі кубанскія, але і свае, беларускія — Уладзімір Мулявін з новай праграмай "Вольнасць". З вуснаў легендарнага "песняра" паліліся дэкларацыі (амаль на ўзроўні гістарычных адкрыццяў) пра існаванне ў 18 стагоддзі казакаў на Беларусі. "Казацкі ўхіл", разам з рэтра, стаў яшчэ адным асноўным стылістычным кірункам фестывалю.

Эх, рамантыка! Ізноў няўлоўныя мсціўцы, эскадроны, коні, шашкі... Цыганы і вайскоўцы заўсёды былі сярод самых прыцягальных вобразаў. Цыганы як сімвал вольнасці, вайскоўцы — як сінонім парадку, аховы, справядлівасці. Цяпер вось жа казакаў намагаюцца ўявіць "праваперaемнікамі" тых і другіх, гэтакім сінтэзам вольнасці з парадкам. А яшчэ — той агульнай глебай, на якой і адбудзецца чарговае яднанне "пралетарыяў усіх краін". Але ж пакінем за межамі палітычны аспект з'явы — накіруем наш верталёт крыху ў "трэцяе вымярэнне", праз памяць гадоў і стагоддзяў.

Ну, былі, былі на Беларусі казакі — калі зважаць на ўжыванне гэтага слова ў фальклоры. Вось толькі называлі казакамі каго заўгодна! Невыпадкова ж казацкія песні ва ўсіх фальклорных зборніках існуюць побач з рэкруцкімі і салдацкімі — стылістыка ў іх адна. І зусім не конна-маршавая! Наадварот, гэтыя песні бліжэй да балад, нават да лірычных працяжных. І з'явіліся не раней за пятроўскую эпоху. Хвацкая "конная" песня — тыпова руская заваёва, да таго ж з вялікім уплывам стылістыкі часоў грамадзянскай вайны. Ізноў своеасаблівае "рэтра"?

Зразумела, гэта толькі супадзенне, але яшчэ адным элементам "ваенізацыі" (ці, можа, русіфікацыі?) фестывалю стала замена сімвалу на спецфестывальных грашовых адзінках, выкліканая рэкламай "грашовадрукарскага" прадпрыемства Н. Т. ГРАФ. Але ж калі мы ў "трэцім вымярэнні", прапаную

## ФІЛЬМ ЖАХАЎ.

N-ны дзень фестывалю. Ударнік базарнай пяцігодкі атрымлівае доўгачаканыя грошы — на мясцовым жаргоне "васількі". Цісне іх да сэрца, потым цалуе, слёзы ліюцца з вачэй. Нарэшце, падносіць іх бліжэй да акуляраў — і тут заўважае, як абрысы валошкі ператвараюцца... у арла! З дапамогай электроннага мантажу арол злятае з купюры і дзяўбе ўдарніка пяцігодкі ў патыліцу. Той падае. Гучыць Жалобны марш Ф. Шапэна з пераходам у Марш цара Дадона з оперы М. Рымскага-Корсакава "Залаты пеўнік" — у выкананні самадзейнай духавой групы, якая ўвесь час запускае

## КІКСЫ.

Так духавікі называюць зрыў гуку — прыкрая з'ява, я вам скажу. І чутная адразу нават непрафесійным вухам. На "СБ" такіх "кіксаў"-праколаў было шмат: і арганізацыйных, і творчых. Тут і недабор удзельнікаў конкурсу (ад Расіі і Украіны было па 3 канкурсанты, ад Беларусі ж — толькі Іскуі Абалян, якой не хапіла ўсяго аднаго бала да лаўрэацтва), тут і барадата-безгустоўнае выступленне нашых "хрыстафораўцаў" у "Начы гумару") лепей бы ў той канцэрт запрасілі У. Радзівілава з яго музычнымі пародыямі!). Але не буду затрымліваць увагу на відавочным — дадам толькі, што галоўным "фіксаваннем", якое штогод узнікае на самай высокай ноце, з'яўляецца амаль поўная адсутнасць на фестывалі беларускай мовы: і ў вядзенні канцэртаў, і ў песнях. На конкурсе беларускамоўную песню мы пачулі ад... удзельніка з Украіны, на канцэрце адкрыцця — ад І. Кабзона. А што ж мы самі? Можа, таму і пачынаюцца ў сяго-таго галюцынацыі, што праходзіць фестываль не ў Беларусі, а на тэрыторыі былога СССР?

Як, у вас таксама галюцынацыі? Тады хутчэй прэч ад медных з іх кіксамі, прэч з трэцяга вымярэння — паляцім да верхняй акалады, якой звычайна аб'яднаны

## ДРАЎЛЯНЫЯ ДУХАВЫЯ.

На слэнзе іх скарочана называюць "дрэва". Не толькі з-за "матэрыяльнай асновы" (у кантрабаса ж драўніны паболей, чым у сучаснай флейты) — з-за "духоўнай асновы" таксама. Яшчэ з даўніны павялося, што драўлянымі духавымі малявалі музычную пастараль. Можа, і нам самы час успомніць чорны капялюш віцебскай ночы, стужку віцебскай вясёлкі праз Дзвіну, таямнічы шэпт хваляў: "Куды грошыкі падзелі?" (дарэчы, адказ на пытанне змешчаны ў газеце "Имя").

Бачыце, як хутка скончылася акалада драўляных? Вышэй за яе — некранутая папера. І хаця я дамаўлялася — пра грошы ні слова, размова пра іх (нават пры аглядзе партытуры!) заходзіць кожны раз, калі якасць паперы не адпавядае якасці музычнага твора. Вось і лунае "крамола": навошта выкідаць на "СБ" такія вялізныя грошы, калі ў выніку нараджаецца чарговы "паміжсабойчык" — міленькая тусовачка ўсё адных і тых жа, адных і тых жа "зорак"? Няўжо толькі дзеля таго, каб нас прызналі краінай Еўропы — на ўзроўні Францыі?

Прабачце за адступленне, але ўдзел у конкурсе францужанкі Наталі Кан'ё (з разраду відавочных "кіксаў") — гэта і ёсць сённяшняе ўяўленне французаў пра нашу культуру. Тое, як спявачка інтэрпрэтавала "Тонкую рабіну", уся яе постаць: ад сарафанчыка да статычнага развядзення рукамі — лепшая пародыя на нас саміх. На ўсе нашыя валошкавыя паркалёчкі, якія ўлюбёна фіксуе

## ФЕСТЫВАЛЬНАЯ ХРОНІКА.

"Вася-васілёк! Вася-васілёк!" — ліецца песня над прасторам. Ішлі піянеры — салют адважнаму герою. Ехалі казакі — салют нацыянальнай святыні. Ляцелі верталёты — салют газетамі "Советская Белоруссия".

Прабачце яшчэ за адно адступленне, але святы абедзвюх газет з ініцыяламі "СБ" шмат у чым залежалі ад беларускага кампазітара Алега Елісеенкава. У верталётным круізе ён не ўдзельнічаў, затое менавіта на яго плячах нечакана апынулася арганізацыя і правядзенне канцэртаў "для прэсы" на плошчы: ён і артыстаў угаворваў, і ў ролі вядучага выступаў, і ў ролі спевака. А калі дадаць, што на гэтым фэсце ён двойчы "журыў" (на конкурсе дзіцячых шоу-праграм быў "шараговым" арбітрам, а на конкурсе прыгажунь узначальваў альтэрнатыўнае журы), дык будзе зразумела, што гэта не звычайны кампазітар, а цэлы... сінтэзатар ідэй, планаў, задумак...

...Між іншым, месца сінтэзатара ў партытуры — паміж ударнымі і струннымі. Там звычайна знаходзяць сабе прытулак тыя, хто "не ўпісваецца" ў агульны "групавы" расклад. У тым ліку і салісты. А яшчэ паміж ударнымі і струннымі ёсць два радкі, на якіх сяды-тады ўзнікае

## АРФА.

Гэта, бадай, самы таямнічы інструмент аркестра. Калі вы пачуеце яе гукі ў П. І. Чайкоўскага — значыць, зараз чароўная лодачка панясе прынца ў царства заваражаных сноў, да спячай прыгажуні.

Але арфа бывае такой толькі ў моманты эйфарыі. У сучаснай музыцы (як і ў грамадстве) падстаў для гэтага ўсё меней — і яна сціпла далучаецца да іншых інструментаў, не губляючы пры гэтым адной ёй уласцівага адцення. Трэба толькі пачуць! Ці нават больш тонка — адчуць...

Для мяне на "СБ" гукамі арфы стаўся беларускі канцэрт у Амфітэатры. Упершыню на такога роду "зборных салянках" я адчула руку таленавітага рэжысёра. Калі раней рэжысурай называлі выстаўленне артыстаў у чаргу, хто за кім, дык М. Пінігін, з уласцівым яму мастацка-філасофскім бачаннем, творчай фантазіяй і ўменнем грацыёзна пераходзіць жанрава-стылёвыя межы, зрабіў з "урачыстай справаздачы ў гонар пяцігодкі" — прыпавесць. У канцэрце знайшлося месца і Паланезу М. Кл. Агінскага, і яўрэйскаму танцу, якія, мабыць, не звязаны з эстрадай, але маюць непасрэднае дачыненне да нашай нацыянальнай гісторыі і культуры. Можа, і не ўсе з магчымых выканаўцаў увайшлі ў канцэрт, затое была ў ім канцэпцыя: гістарычная, мастацкая, філасофская. А якімі цудоўнымі былі "падводкі" да кожнага нумара! Нават зайздрасць брала, наколькі зроблены яны былі прафесійна, з густам і з... гумарам!

А мастацкае афармленне З. Марголіна! Здаецца, нічога асаблівага не зрабіў — вось толькі трактары на сцэне там-сям панакідаў. А ў спалучэнні з астатнімі выразнымі сродкамі эстрадна-тэатральнага дзейства гэтыя рэаліі жыцця пачалі чытацца такім "сюрам"! Цікава, што калегі-масквічы нават герб, што красаваўся над сцэнай, здолелі "прачытаць" як зашыфраваны сімвал. І не верылі, што ён сапраўдны: маўляў, валошкі ў адным снапочку — гэта афіцыйны сімвал "СБ", а нешта ружовае накшталт "клубнічкі" ў другім — неафіцыйны, але ж таксама сімвал "СБ" з яго "распуцінымі".

Вось такой выйшла беларуская "арфа" — уся загадкава-сімвалічная, як нейкая terra harmonia паміж Еўропай і Расіяй, паміж "Ave Maria!" і "Вечерним звоном". Між іншым, Дж. Пучыні і Г. Малер ужывалі арфу ў звонавых гучнасцях — найцікавы прыём. Можа, і нам паспрабаваць пафантазіраваць? Пашукаць і надалей чаго-небудзь арыгінальнага ў эстрадзе? На мяжы жанраў і стыляў? Бо прайшоў фестываль — і застаўся ад яго, акрамя хронікі,

## ФЕСТЫВАЛЬНЫ ФАЛЬКЛОР.

— О-о-ой, сфестывалілі майго Валошку, сфестывалілі-і-і...

— Хто? Хто ж такое ўтварыў?

— Ну, гэты... Як яго... "СБ"...

— А-а-а, "Б"...

... Базар — ён і ёсць б-азар. Добра яшчэ, што не х-вестываль. А то б ужо зусім крыж паставілі. А так — усё добра. І пасля афіцыйнага "прэзідэнцкага" закрыцця была на фестывалі "Ноч гумару", якая завяршылася непаўторнымі пародыямі А. Пяскова на тую ж Машу ды іншых. Фестываль нібы смяяўся сам з сябе. А калі смяяўся — можа, і "выйдзе ў людзі"? У наступнай пяцігодцы?..

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

*Фота В. РАПЕЦКАГА*

# НАМ ТРЭБА СВЯТА Ў ВІЦЕБСКУ?

Чалавек, не глухі да слова, адразу заўважыць недакладнасць азначэння эстраднага свята, якое вось ужо каторы год запар адбываецца ў Віцебску, словамі "Славянскі базар". Базар — гэта гандаль, торг; яшчэ — спецыяльна адведзенае для гандлю месца; а яшчэ — зборышча людзей; і, нарэшце — бязладная гаворка, крык, тлум. (Заадно заўважу: слова б а з а р н ы ўспрымаецца як непрыстойны, грубы). Людзі, якія маюць дачыненне да мастацтва, і тыя, хто ладзіць памянёны фэст у Віцебску, мусяць зразумець, што свята мастацтва не выпадае звязваць ні з гандлем, ні са зборышчам людзей, ні з бязладнай гаворкай, крыкам, тлумам... У слове б а з а р няма нават намёку на ўрачыстасць, якая, вядома, прысутнічае ў паняцці **фестываль**, няма адчування **свята**, якое ёсць, напрыклад, у слове ф э с т.

У арганізатараў свята, адчуваецца, ёсць праблемы з густам, інакш бы яны не прышпілілі б да "Славянскага базару" бязладны і безаблічны конкурс "Міс славянка", які звёўся да бяздарнага паказу дзявочых целаў, а не да спаборніцтва сапраўднай прыгажосці.

Камусьці спатрэбілася прышпіліць да яго і "воднае шоу", і многае іншае.

Але такія адступленні ад мастацкай праграмы не маглі зацьміць асноўных падзей фэсту. Яго вяршынямі сталі першы і другі туры конкурсу маладых салістаў. Быў відавочны высокі прафесійны ўзровень выканаўцаў, ён "прадказваў" напружаную барацьбу. Ужо ў першым туры праявілі сябе найбольш адораныя асобы. "Ой, летіли дикі гуси..." — так называецца ўкраінская народная песня, якую праспявала 23-гадовая львавянка Руслана Лыжэчка. Песня цудоўная, багатая і зместам, і мелодыяй, эмацыянальна выразная, мудрая, хвалюючая. Такія песні здольныя перавярнуць чалавечую душу, калі яны ідуць з вуснаў праніклівых выканаўцаў. Дзяўчына скончыла песню — і стала зразумела, што хутчэй за ўсё яна і пераможа. Прынамсі, вельмі хацелася, каб менавіта такі мастацкі ўзровень перамог. Руслана атрымала рэкордную колькасць балаў. Заслужана атрымала. Уся справа ў яе адметнасці, яскравым нацыянальным каларыце і, безумоўна, у прыгожым голасе, у майстэрстве, у творчым падыходзе да народнага скарбу. Боскі спеўны дар дзяўчына злучыла з глыбокім разуменнем народнай душы, бездакорны мастацкі і эстэтычны густ даў ёй пачуццё меры, а перадусім — удалы выбар твораў. Трыумф чакаў таленавітую ўкраінскую спявачку назаўтра, калі яна ў другім конкурсным туры праспявала "Тиху ніч", калядную песню ў сваёй апрацоўцы, — усе члены журы паставілі за гэтае выкананне найвышэйшую адзнаку — 10 балаў. Выключны выпадак! Гран-пры "Залаты певень" (з узнагародай 10 тысяч долараў) — у Русланы Лыжэчкі. Нам, беларусам, застаецца парадавацца, што сястра Украіна мае такую дачку і што міжнароднае журы прызнала яе стваральны талент.

Парадуемся і за бліскучы поспех турэцкага спевака Хакана Сулеймана Азкайя. Ён на сцэне выглядаў арлом. Прыемны, моцны і эластычны голас, высокая вакальная культура, цікавая пластыка і меладычныя песні прывялі яго да выдатнага выніку: у яго — першая прэмія "Залатое яйка" (і шэсць тысяч долараў).

Ну, а як жа выглядала на гэтым фоне беларуская эстрада? Беларусь на "Славянскім базары" прадстаўляла маладая армянка Іскуі Абалян. Мабыць, не было б дзіўна, калі б яшчэ грузін ці негр прадстаўлялі Рэспубліку Беларусь (я прашу цудоўных Тато Майсурадзе, грузіна, і Нільсана, негра, якія выдатна спяваюць па-беларуску, не крыўдзіцца на мяне). Калі дзяржава страчвае сваю аснову — нацыянальную ідэю, нацыянальны дух ва ўсіх сферах пачынае слаба сябе праяўляць. Тады прайграюць на міжнароднай арэне і футбалісты, і хакеісты, і гімнасты... Тады ў нас выразна гучаць адно чужыя песні, чужая мова. Вось і Іскуі Абалян, хоць і абараняла гонар Беларусі, спявала рускія тэксты, што, дарэчы, мала ёй дапамагло. Праўда, яна ўсяго на адзін бал адстала ад уладальніцы трэцяй прэміі Таццяны Анісімавай. І для яе асабіста, гэта, мабыць, поспех. Але для краіны — чарговы правал.

Напрошваецца яшчэ адна заўвага. Чаму, калі квота дазваляла выставіць на конкурс двух ці нават трох выканаўцаў (ад Расіі і Украіны было па тры), ад Беларусі трапіла толькі адна салістка? Што стаіць за гэтым фактам, што тоіцца за ім? Чыесьці амбіцыі без амуніцыі? Перастрахоўка? Ці комплекс непаўнавартасці, самаедства?.. Было б не так крыўдна, калі б мы не мелі маладых перспектыўных спевакоў. Не так мала іх пад апекаю і Анатоля Ярмоленкі, і Міхася Фінберга, і Уладзіміра Мулявіна. Ёсць і незалежныя маладыя таленты. Чаму ж ім закрыта дарога на "Славянскі базар"? А, можа, тут, не дай Бог, шчыруюць нейкія цёмныя сілы, у якіх адно жаданне — прынізіць Беларусь?..

Да сказанага хачу дадаць яшчэ адно ўражанне: на свяце ў Віцебску панавалі рускамоўныя старыя, з доўгай барадой песні. Гэтым грашылі і "Верасы" (з іх ужо надакучлівым "Караванам"), і дуэт Я. Паплаўскай і А. Ціхановіча, і іншыя выканаўцы. Што, у нас праблема з новымі песнямі? Калі так, то чаму не праводзяцца конкурсы на лепшую лірычную, лепшую жартоўную, лепшую маладзёжную, лепшую дзіцячую песні? Няма грошыкаў? А нацыянальная годнасць ёсць?.. А можа нам не свята для душы трэба — досыць і сякога-такога базару?

**Васіль ЖУКОВІЧ, паэт**

АКУРАТ год прайшоў па выдрукаванні ў часопісе "Полымя" лістоў Ларысы Геніюш да Максіма Танка. Я ўчытваўся ў іх шматкроць і кожным разам пранікаўся душэўным утрапеннем, адчуваў, як нешта шчымлівае міжволі крадзецца ў сэрца, забірае цябе дарэшты. Ну, не чытаюцца, асабліва зараз, па смерці гэтых вялікіх патрыётаў нашай зямлі, без даўкага камяка ў горле і смугі на вачах радкі накшталт наступных (ліст ад 14. IX. 1967 г.): "Калі Вы будзеце ў больніцы і дазволяць Вас бачыць, я кіну бяліць хату, варыць кампоты і марынаваць грыбы і абавязкова прыеду паглядзець на Вас. Спадзяюся, што Вы будзеце папраўляцца! Вы, калі ласка, зразумейце, што хворае сэрца — гэта не гуз на лобе, а рэч надта паважная!.." І далей: "Проста дрыжу за Вас, бо чую і ведаю, як гэта ўсё паважна! Вас замучылі рознымі справамі, тады, калі для нармальнага чалавека не адужыць было б адной паэзіі Вашага размаху! Як Ваш пульс, харошы сябра М. Танк? Ці заўсягда носіце з сабою "валідол"? Ці кладайцеся ў пару спаць? Ужо год будзя зараз з той пары, калі Вы, як сапраўдны рыцар, гатовыя былі памагчы мне выбіраць моркву..." І яшчэ: "Вецяр калыша маю яблыньку і па-маленьку ўжо страсае лісце, гляджу праз акно на тое месца, дзе Вы стаялі з Алесем Бажко і, здаецца, Вас бачу! Заставайцеся здаровыя, Максім Танк! Вельмі хачу мець пэўнасць, што няма болей небяспекі Вашаму здароўю..." ("Полымя". 1995. N 8).

Варта звярнуць увагу: у гэтых радках далёка не тыя сентыментальна-лёгкаслязлівыя шчырасць і давер, якія выклікаюць звычайную і зразумелую ў такіх выпадках душэўную мілату і толькі.

Ларыса Геніюш і Максім Танк... Каторы час не адпускае пытанне: што яднала гэтых, здавалася б, вельмі розных людзей, якіх напаткаў ледзь не супрацьлеглы лёс, кожны з якіх "прайшоў у жыцці свой складаны шлях"? Насампраўдзе, мяркуйце самі: былы вязень савецкіх папраўча-працоўных лагераў, асоба без грамадзянства, ізаляваная ўладатрымцамі ад актыўнай грамадскай чыннасці апальная паэтэса-"нацыяналістка" і ўганараваны шматлікімі пасадамі, званнямі і прэміямі, член ЦК КПБ, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і старшыня Вярхоўнага Савета БССР, акадэмік, народны паэт Беларусі...

Ва ўсе часы яны былі душэўна і па-грамадзянску спакроўлены неадцуранствам ад свайго, тых клопатаў, якімі турбоціўся народ, жыла Радзіма. Ідэі патрыятызму, высакароднасці і гуманізму іх бадзёрылі і натхнялі, былі асноватворнымі носьбітамі ўсяго іх зямнога існавання. Як паказваюць дзённікавыя матэрыялы, паэтычныя творы і Л. Геніюш, і М. Танка, толькі ёю, любоўю да Бацькаўшчыны-Беларусі, яны кіраваліся на ўсім шляху ад народзін да таго нялёгкага часу, калі іх скроні дарэшты аснежыла нямоглая старасць і напаткала смерць. Аніколі не мялела ў іх пачуццё высокай духоўнасці, ахвярнага слугавання людскасці, спаконвечным нормам чалавечай маралі і этыкі. Яны абое чым маглі пасаблялі людзям, хоць і ведалі, што на ўсіх наўрад ці спадобіць іх вымогаў, здароўя і моцы.

Л. Геніюш, якой наканавана было пайсці з жыцця на вечаровым прысмерку застойнага часу, не лекатала перад уладатрымцамі і чынавенствам, якога б калібру яны не былі, годна бараніла свае ідэі і перакананні. М. Танк, у адрозненне ад многіх сваіх творчых пабрацімаў, не пудзіўся ўзаемадачыненняў з выдатнай паэткай, таго, што пра іх будуць абазнаныя "палітрукі бальшавіцкай ідэалогіі" (Г. Бураўкін), стасункаваўся з іншымі асобамі, якія выклікалі падазронасць і недавер афіцыйных структур, найперш кампартыйнага "цэнтра мудрасці". Ён хаця і быў непасрэдна падключаны да працэсу кавання кэпээсэсаўска-камуністычнага шчасця, але ў выказванні вернасці ўладам не дужа надрываўся, не гэтулькі паэтызаваў гэты працэс, колькі яго маніфеставаў.

Прапаную ўвазе чытачоў колькі невядомых лістоў Л. Геніюш да М. Танка, у тым ліку і самых апошніх, выяўленых мною ў сямейным архіве народнага паэта.

**Мікола МІКУЛІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы**

# "ДОБРА, ШТО ВЫ ЁСЦЬ..."

## ЛІСТЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ ДА МАКСІМА ТАНКА

*Зэльва. 20/II.67 г.*

Максім Танк!

Вельмі добра, што Вы ёсць на свеце. Я зусім не хвалю Вас, гэта я перабіраю ў думках маё жыццё і жудасна мне ад зла людзкога... Я так баюся, каб Вы не сталіся інакшым! Людзям так трэба ціхай, непрыкметнай і пэўнай, як скала, дабраты. У мяне нейкі голад той дабраты. Смешна, але ў жыцці маім кожны хацеў ад мяне помачы і сілы. Бесканечна. Я крыху змучылася і мне здаецца часам, што Вы — нерэальнасць. Ці Вы мяне разумееце? Муж на дзяжурстве. Позна ўжо і вельмі ціха. "Полымя яшчэ няма ў Зельве. З Вашага ліста дыхнула нейкай палёгкай, што яно выйшла. Мне не верыцца крыху, аж я моўчкі цешуся. Мне хочацца толькі пісаць лепш! Калеснік сказаў некалі, што вершы мае вельмі наіўныя і гэта засела мне ў галаву. Калі вярнуся, дык крыху напішу прозы. Йзноў аб Вас. Я з Вамі гутару як з Міхаськай. Ходзіць тут не аб узроўні гутаркі, але аб яе чысціні, першапачатковай беззаганнасці нейкай. Будзьце заўсягды такі, Максім Танк, я баюся, што прачнуся некалі і Вы станеце такі, як усе людзі... Але не! Мы з Вамі вязьні ў мінулым, якія мелі столькі дзён і начэй, каб пазнаваць, ацэньваць явішчы жыцця і думаць. Я заўсягды сеяла сілу і вытрываласць, барацьбу і змаганне, але вечна жыла ўва мне і гэтая другая душа, не, не слабая, толькі жаночая... Першы раз я на некага апіраюся (акрамя мае веры ў дабро) і вельмі гэта адчуваю. Я толькі не ведаю, ці губляю сваю сілу, ці яе набіраюся. Няхай будзе гэта такі перапынак. Я ж не знаю Вас, Максім Танк, я Вас адчуваю толькі. Лучыць мяне з Вамі супольнасць шляху, на якім Вы вялікая сіла. Я фанатычка крыху і ўсё небеларускае здаецца мне прэсным... Я так рада, што ў нашых хатах век гутарылі па-беларуску і нам з Вамі перадалі свае крыўды, спадзяванні і славу. Цешуся, што Ваш тата ўдома! Ён, напэўна, усьміхаецца! Што будзе, што будзе... Доктар можа наглядаць час ад часу, а нейкая медсястра выконваць яго назначэнні. Час ад часу прыдзецца спускаць вадкасць, даваць глюкозу і інш. Не сумуйце, Максім Танк, я спадзяюся, што Вы яшчэ паспееце ля яго пабыць. Мой муж немагчымы чалавек! Пайшоў на дзяжурства з тэм-пер.! Ён не ляжаў у часе грыпу, гдзе Вы бачылі! А жаўты, а страшны! Непамяркоўны ён чалавек і неразумны... Мне прыкра глядзець на гэта. Ягоная медсястра пайшла ў дэкрэт, ледзве цягне работу. Я гутарыла з жонкаю глаўурача, прасіла, каб даў яму сястру. На кожвен самому нельга! Раблю так усё, каб не ведаў, бо сварыцца надта. Вось для гэтых усіх прычын доўга не змагу пабыць з унукамі. Калі б ведалі, з якім страхам еду! Жаніліся з вялікага кахання, а цяпер хоць ты плач над імі... Сыну таксама патрэбны зразуменне і дабрата, чаго не мае ў сям'і... Маюць усё, што хацелі: мэблі, тэлевізар, халадзільнік, дыплом і г. д., а вось нейкай драбніцы не дагледзелі, а без яе жыць нельга. Калі пішаце пра Пількаўшчыну, дык мне нагадваецца наш хутар: Жлобаўцы. Гэтай назовы няма ўжо... Там былі дрэвы, снягі і вятры. Калі я прыяжджала са школы зімою, то чатыры сабакі з віскатам клалі



мне лапы на плечы і з радасці, не адагнаць было, тата браў на рукі з санак, мама сурова падстаўляла шчаку ў руку для пацалунку, а вочы ей свяціліся шчасцем. Сёстры, брацікі і слугі ўсе віскаталі, а найбольш я сама. Ноччу гудзеў вецер, а ля бацькоў было так бяспечна і цёпла. Яшчэ я замуж не выйшла, то тата браў на рукі з санак і лёгка нёс цераз парог. Я ж была тоненькая і вельмі лісьлівая... Я і сёння люблю аднаселле, куды няма дарогі злым людзям. Мяне лупілі вельмі, але болей любілі, і вось я сплачваю любоў гэту сваёй Беларусі. З суровага жыцця засталося ў памяці цяпло кахання даволі няшчаснай і разрозненай сям'і, відавочна, яно было наймацнейшае... Добра, што кніга пайшла ўжо ў друк! Цікава мне, як зразумее, ці адчуе яе змест мастак? Толькі б не плакатна, не павярхоўна. Мне здаецца часамі, што Вы мой брат і мне так добра гутарыць з Вамі аб усім як з нейкім родным. Дзіўна, але Вас вельмі любіць і мой муж! Ён рэдка каго любіць! Якое будзе тое "Полымя"? Толькі б нешта з тых вершаў засталося хоць у сэрцах людскіх... Так хацелася б... Мы ехалі з Ваўкавыска і здавалася мне, што ад фар аўтобуса:

**"Цені вокал ля дрэваў паўзуць,**
**шротам снег аб камлі цярэбіць,**
**свішча вецер, як панскі бізун,**
**па рабрынах пахіленых вербаў..."**

Бывайце здаровыя! Перад ад'ездам яшчэ напішу. Заўсягды з пашанаю да Вас

*Ларыса ГЕНІЮШ*

*Зэльва. 24/XII.1981 г.*

Шчыра паважаны Максім Танк!

Дзякуй за мілую памяць. Снежанскім марозным днём яна асабліва мяне ўсцешыла. Сардэчна вітаю Вас і ўсю Вашую сямейку з Новым годам і жадаю найлепшага! Радасці жадаю Вам з жыцця, багатага плёну з працы і даўгалецця. Глыбокі вечар. Ля маіх ног маленькі сабака Жук, які вартуе мяне заўсёды. У сэрцы неспакой за сваіх у Польшчы і абсалютны брак вестак ад іх. Ведаю, што непакоіцеся, як жыву і што ем. Дзякуй Вам за гэта, але стол мой заўсёды з хлебам, а дні з людзьмі, хоць часамі балюча адчуваю адзіноту, асабліва духовую. Дзялю з суседзямі, з усімі простымі людзьмі іх буды, інтарэсы...

Як і Вы ўсе, жыву цяпер 90-годдзем М. Багдановіча. Бяда толькі, што капрызныя музы мінаюць цяпер хату маю і маё пяро. Нейкая безперспектыўнасць падзеяў у свеце паралізуе думкі. Моцна Вам зайздрошчу і рада, што Вы ў сям'і, што побач сябры і творчая атмасфера. З радасцю бачу Вас на экране тэлевізара, чытаю Вас ці слухаю пра Вас. Добра, што Вы ёсць. Надта хутка ўцякаюць дні і калі лёс дазволіць мне яшчэ сустрэць Вас на сцежках сваяго жыцця — буду ўдзячная лёсу. Недзе злуецеся на мяне за непаслушнасць, але на ўсё ёсць свае прычыны. Вельмі чакаю на сваю кніжку — "з друкарні пана Марціна Кухты"... Са здароўем сяк-так і каб крыху мацнейшае сэрца, дык было б лягчэй. Але ўсё раблю лёгка сама, і калі б Вы некалі завіталі ў маю хату, дык спяку Вам аладкі.

*Ваша заўсёды Ларыса Геніюш*

*Зэльва. II/VIII. 1982 г.*

Шчыра паважаны і дарагі Максім Танк!

Пасылаю Вам сваю маленькую кніжачку і ўсё, што ў ёй. Няхай гэта будзе маею гутаркай з Вамі. Часта думаю пра Вас, але нічога пра Вас не ведаю. Хацелася б пачуць Вашае жывое слова. Не пісала Вам, бо не адказалі Вы на мой ліст і яшчэ таму не пісала, што зноў мне тут да жудасці, да агіды бывае дрэнна. Гэта на месцы, у Зэльве. Толькі што быў сусед лекар, каб баранілася крыху, бо ля маіх кветак ставяць сметнік і ўсё пацячэ ў мой двор, які ляжыць ніжэй. "Развели цветы, а людям жить негде", — такое і падобнае толькі і чую. Не хочацца мне адыходзіць са сваёй хаты. Жыць засталося не шмат. Давялі да адчаю. Цяпер лечаць сэрца. Крыху лепей. Другі год не бачу сына і ўнукаў, а яны сюды аж рвуцца, бо і дапамагчы трэба хворай бабусі і адведаць дзедаву магілку. Усё нейк сумна і Вы мне даруйце, што нічым Вас не пацешыла. Як маецеся Вы? Як Любоў Андрэеўна, дзеці і ўнукі? Тыя цукеркі былі найлепшымі, якія толькі хто мне падараваў! Дзякуй Вам не за іх, але што Вы пра мяне ўспомнілі. Калі гляджу тут навокал, дык хочацца... часам уцякаць, але так нельга нам, салаўям беларускай дубравы. Дзякуй Вам за ўсё, Максім Танк.

*Ваша Ларыса Геніюш.*

*Зэльва. 9/IX. 1982 г.*

Шчырапаважаны і дарагі Максім Танк!

Ліст Ваш падняў мяне з ложка. Здавалася мне, што болей не ўстану. Уколы... не дзейнічаюць. Ціск 100 на 60, страшэнна нізкі. Выглядаю як труп. Вельмі прашу Вас маю скромную маёмасць, галоўнае: кніжкі, лісты, фатаграфіі і памяткі аддаць маім дарагім унукам. Чуюся дрэнна як ніколі. Баюся, што гэта не толькі "стэнакардзія", як кажуць лекары. Дзякуй Вам вялікі за добрыя словы ў адрас маёй кніжкі. Яшчэ адна просьба да Вас, за якую даруйце. Скромны і ціхі мясцовы святар жыве абы гдзе. Прапісаны ў мяне. Сям'я нігдзе не прапісана. Побач храма пастроены царкоўны дом. Людзі ўжо звярталіся да пракурора Магільніцкага



(балаціраваўся ў Зэльве). Прызналі, каб аддаць гэты дом (з цэркваю гэта адно цэлае) святару. Ён вялікі. У адной палове жыве нейкая буфетчыца, у другой, мусіць, трэцяя ці чацвёртая ўжо нелегальная жонка памершага летась старога святара... Усякі загад з гары разбіваецца аб зэльвенскае начальства. Між намі кажучы, усё тут моцна закуплена. Калі Вы хоць крыху зможаце пагаварыць з прак. Магільніцкім, дык ласкава зрабеце гэта. Я бачыла, як святар плакаў, так нізка і моцна тут над ім здзекуюцца. Я ў гэтыя справы не мяшаюся, але сёння я прашу Вас дапамагчы. Няхай зэльвенцам, ціхім бабулям з сяла хоць нейкая памятка па мне застанецца. Я не звяртаю ўжо ўвагі на хату, на панадворак з іхнімі стройкамі. Хачу толькі памерці пры ўнуках і не ў Зэльве, гдзе жывуць простыя, харошыя людзі і вось злое "начальства"... Святар цяпер не бывае ў мяне, але аднойчы казаў мне: "Наколькі вас любяць людзі, настолькі вас ненавідзіць начальства"... Жыццё апошніх гадоў было для мяне мукаю. Мне асабіста не памагайце. Жыць мне ўжо цяжка і надаела. Прытым баюся, каб Вы сабе не пашкодзілі мне памагаючы. Жывіце доўга і шчасліва, дарагі Максім Танк. Рада, што мілая Любоў Андрэеўна, Вашыя дзеці і ўнукі пры Вас. Крыху сумую, што Вам ужо 70 г. Выглядаеце, выступаеце, пішаце і працуеце яшчэ як малады. Добра так! Абое мы моцна любім нашую Беларусь, для яе толькі фактычна жывём. Няхай нашая спадчына Ёй застанецца. Я маю ўсё, Максім Танк. Маю што есці і што апрануць, але адчуваю, што з апошніх "удараў" ужо мне не ачуняць... Не пераношу — зла, нізасці, хамства і безчалавечнасці! І Вы гэта ведаеце. Нашае ЦК на вышыні, а вось падобныя "самаўправы" прыносяць толькі ганьбу гэтай дзяржаве, а шкада, бо тут зроблена і многа патрэбнага. Заставайцеся здароў, дарагі Максім Танк (які падымае на ногі цяжка хворых...). Шчыра вітайце ўсю сямейку сваю.

*Ваша заўсёды Ларыса Геніюш*

**Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА**

Анатоль КІРВЕЛЬ

# ЛІПЕНЬСКАЯ ПАЛІТРА

МЕНСК-96

*"Трэба дома бываць не госцем"*
*Р. БАРАДУЛІН*

## КРУГІ СВАЕ

Ці патрэбна цывілізацыя дзікуну?

Патрэбна: сутыкнуўшыся з ёю, ён з цягам часу пачынае адчуваць сябе чалавекам.

Ці патрэбна цывілізацыя недзікуну?

Мабыць, не: страціўшы яе выгоды і набыткі, ён хутчэй дапне да сваіх каранёў і спасцігне ўрэшце згубленыя ім некалі сэнс. Сэнс свайго існавання.

Зрэшты, усё вяртаецца на кругі свае...

## ГІСТОРЫЯ ХВАРОБЫ

Як няма чым жыць, дык жывеш не сваім жыццём — чужым: кніжным, тэлевізійным, суседавым.

І цікавасць пэўную маеш, і кошкі на душы не шкрабуць, што дарэмна неба копціш...

А як зашкрабуць — то й жыць ужо няма калі: серыялу — капцы!

Адзінае ўжо: здай куды тэлевізар — капейчына нейкая будзе, — ці аднясі букіністу зачытаныя да дзірак старонкі — гісторыю тваёй хваробы — раптам некага яна ўратуе...

●

Дзіўны народ — жанчыны. Спачатку падкрэсляць — аж страх бярэ ад іхняй смеласці! — усё лепшае, што маюць, а потым, нібыта розум займеўшы, — на папятную: хаваюць ад мужчынскіх вачэй тое, чым хацелі здзівіць ці прывабіць.

Дальбог, дзівачкі: сказаўшы "а", не асмельваюцца вымавіць наступную літару алфавіта — логіка не дазваляе. Жаночая.

Ды што тая логіка ў параўнанні з жаданнем — бурбалкі пасля дажджу!

Але, як лужыны ў бурбалках — чакай цяпла!

Не спіце ў шапку, мужчынкі: прыкметы не маняць!

●

Слова — не той верабей, якога вясной са шпакоўні вытурваюць.

Слова — той верабей, якога ў тую шпакоўню і не загоніш — цесна!

●

Дзяўчуха жвава тупала па Францішкавым праспекце і задзірліва трэсла бубачкамі цыцак.

Не падымала вачэй — саромелася трохі, — але радавалася, калі на яе хто глядзеў: а як жа — амаль дарослая ўжо! Амаль... жанчына!

Ды зрэдчас хмурнеў тварык — страх аваладваў: цыцачкі маленькія, а яна імі — божа! — трасе... Што падумаюць людзі?!

Падумаюць, што малая шчэ, а таксама туды — да жаночага роду-племені...

А куды ж ёй болей — гэткай малой, задзірлівай, невучонай...

●

Лысаваты дзядзька ў моднай паласатай кашулі — пад маладзёна! — скамянела, нібыта зрабіў нечаканае адкрыццё, унурыўся за столікам перасоўнага летняга кафэ і, без усялякай надзеі на поспех, цаляў — відочна, халастымі позіркамі па кароценькіх — далей ужо немагчыма! — спадніčках ды па-пляжнаму разняволеных і сакавітых дэкальтэ. І нерухома трымаў у руках газету з вялікім, амаль на ўсю старонку, загалоўкам: "ІМПАТЭНТЫ".

Жывы помнік часу напрыканцы дваццатага стагоддзя.

## ПРЫГАРАД. ВЯСКОВАЯ ВУЛІЦА.

— Мамачка! А ён да мяне лез...

— Хто?

— Ды хто?! Жэнік!

— Зноў за косы тузаў?

— Ды не-е...

— А што?

— Ну-у... туды лез...

— Во дурная! Ты б яму выспятка!

— Не, мамачка! Ведаеш, я лыткамі яго як сціснула, дык ён ажно запішчэў! А потым уцёк! Ён што — спалохаўся, мама?

●

Твар — адбітак няспраўджаных надзей.

Няспраўджаныя надзеі — парасткі лёсу.

Твар — Кніга Жыцця?

●

Беларус — рэч у сабе.

Як выспее — што ж гэта будзе за расліна?

●

Форма фармуе змест.

Але форма яго не ратуе.

І тое, і другое — спрадвек у пачуцці.

Як спелы колас у зернейку.

## ПА ЦЭЛЬСІЮ ЦІ ПА ФАРЭНГЕЙТУ?

30 ліпеня Зянон Пазняк звярнуўся ў Дзяржэпартамент ЗША з просьбай аб палітычным прытулку.

У той самы дзень Белгідрамет нечакана паведаміў: "Сярэдняя тэмпература па рэспубліцы — 25 градусаў... не па Фарэнгейту".

Слушна! Папера яшчэ не смыліць: Дзяржэпартамент адказу пакуль не дае.

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Незалежнасць — гэта калі адно не залежыць ад другога. Нонсенс!

Сузор'і пэўным чынам залежаць ад Галактык, Зямля — ад Сузор'яў, Травінка на зямлі — ад Сонейка ці Дажджу, а Твой настрой — ад таго, што скажа сёння Прэзідэнт.

## ЗАПРАШЭННЕ

Ай, якія сукеначкі!

Што сонейка чырвонае ранічкай! Як не заўважыць!

Ай, якія ножкі!

Дзіва не ўпільнуеш сваё цікаўнае вока — само на іх зірне! — ды хіба грэх?!

І дзе іх гэтулькі набралі — адна ў адну - і тварам, і паставаю...

Цяжка ім, пэўна, хадзіць сярод столікаў ды ўсміхацца кожнаму — і калматаму, і брытагаловаму, і ў падранай кашулі, і ў піскліва-модным гарнітуры: хто ні завітае — то бельмы найперш на ножкі! А даўжэйшую сукенку нельга: уніформа чырвоная ды статут фірмовы не дазваляюць.

Хай бы на тварык хто зірнуў, а не на ўсё астатняе!

Зірнуў!

Божа!

Гадочкаў васемнаццаць! І штосьці ў вачах гэткае, што спытаць прымусіла:

— Як жа вас завуць, прыгажуня? — але "прыгажуня" не ўголас, а толькі ў думках: хіба патрапіш адразу што ім у крыўду будзе?!

— Кацярынаю!

— Вялікі ж вам дзякуй за клопат (прынесла кубачак кавы).

— Прыходзьце яшчэ, калі вам гэтак спадабалася.

— Ці будзеце калі?! Ад'язджаю заўтра...

— Куды?

— Ды ў Піцер!

— Ой, вы з Ленінграда? Праўда? Гэта ж мая мара!

— Дык бярыце адпачынак і едзьце!

— А як? Працу хіба кінеш?! А ўвосень — заняткі.

— Дзе?

— Я ж вучуся. У фінансава-эканамічным. А цяперака — летам — падрабляем трохі. Стыпендыя, самі ведаеце...

— Усё роўна прыязджайце. Хай і праз год. Буду чакаць!

— Няўжо?

— Кавай вас пачастую. Піцерскай!

## БЯСХМАР'Е

Яна — вальяжная, але стройная, — лёгенька паднялася з-за століка і лёгенька пахіснулася, нібыта яны сапраўды выпілі віна, а ён — трошачкі вышэйшы за яе — таксама спрабаваў быць вальяжным і па-спартыўнаму рухавым, але хіба дасягнеш гэтага з ягонай камплекцыяй — штангіста на заслужаным адпачынку, ды з жыватом, як у кормнага вепрука?! — і таксама пахістваўся, бо надта ж хацеў улагодзіць ёй, ды ў перапынку між словамі прыгадваў той шчаслівы час, калі і сам быў гэткі ж малады і стройны...

І плячо яго пяшчотна тулілася да яе пляча, а яна, пахістваючыся, ці то адштурхвала, ці то прымала ягонае прытульванне — не зразумець! — і пасміхвалася, што так робіць: як жа не хапае Косціку, ейнаму мужыку, гэткай во далікатнасці, гэткай увагі ды клопату... Хоць і маладзейшы... хоць і свой, але...

І зноў пахісталася ды ўсміхалася: сонца такое цёплае, і хмарак над галавой пакуль аніякіх...

## РУЖЫ ДЛЯ КАСАНДРЫ

Яна напрарочыла мне каханне. І не спагнала за гэта ні грошыка.

Я доўга хадзіў уздоўж самаробных складных столікаў, засланых цыратовымі абрусамі, а на тых століках — колькі хапала вока — белыя і чорныя гладышыкі, у якіх — кветкі. Пераважна ружы. Безліч ружаў: белых, чырвоных, жоўтых... То шчэ з маленькімі бутончыкамі-падлеткамі, ахінутымі зграбнымі зялёнымі плашчыкамі — чатырма лісточкамі, якія потым адгорнуцца ўніз, схаваюцца пад пялёсткі, іх амаль не будзе відаць; то пышныя — як жанчыны, якім жывецца лёгка і бясклапотна...

І тыя, і гэтыя заварожвалі сваім колерам, формаю і таемнасцю, заўсёды ўласцівай сапраўднай прыгажосці, — ажно вочы разбягаліся! — ды не знайсці мне было кветку для маёй Касандры: у кожнай жанчыны — як і ў кожнай кветкі — свая адметнасць, свая непаўторнасць.

Спыніўся быў ля аксамітна-барвовых, прывезеных аднекуль здалёк — бадай, з Грэцыі, адкуль і сама Касандра... Яны распусціліся толькі напалову і вусцішна-скнарліва хавалі ў хітраспляценні сваіх пялёсткаў усё тое, чым можа прывабіць і адштурхнуць жанчына: загадкавасцю позірку, жудліва-вабнай глыбінёй неспазнаных нават ёю самой таямніц душы, ці непрадказальнасцю паводзін — без адзінага слова возьме цябе ў палон, задушыць, высмакча... і адпіхне, як непатрэбную ўжо рэч, будзе шукаць наступнага прастачка... Колькі нязведанага ў гэтых пялёстках... Стой і дзівіся!

Шыкоўныя ружы — шыкоўны кошт!

Пэўна, маючы гэта на ўвазе, яны ўзвышаліся над астатнімі кветкамі гэтаксама, як узвышаецца каралева над простым людам... Арыстакратычна-прыгожыя — на тоўстых нягнуткіх сцяблінах — яны адчужана-ганарліва пазіралі ўніз на стлумлены гарачыней і морам кветак натоўп, чакалі свайго караля ці прынца, абавязкова з тоўстым кашальком... а што ў яго будзе напісана на твары — не так істотна.

Істотней тое, што іх — такіх неймаверна прыгожых, па-каралеўску панясуць на руках (пакаралеўску праз тое, што шыпы — не дробныя калючкі, а сапраўдная зброя — доўгія і вострыя — паспрабуй забыцца на іх!). Але ўсядно пакладуць на рукі і панясуць — такі звычай! — а яны будуць вабіць і адначасова адштурхваць...

Сапраўды — ружы для Касандры — даўняй Прарочыцы-Жанчыны, якая за ўсё жыццё так і не спазнала нектару ўзаемнасці...

Я сказаў "Не!" гэтым кветкам.

Тая Касандра, якая напрарочыла мне каханне, была не такою.

Я ведаў, што ў маёй Касандры — добрае сэрца і шчырая, светлая душа, хаця шмат перад кім жадае здавацца іншай — гэтак яна бароніць сваю чысціню і шчырасць.

Ды — баронячыся не той зброяй — можна неўпрыкмет страціць тое, што бароніш... — не ўсочыш!

І я, пахадзіўшы з паўгадзіны, адшукаў нарэшце ў бязмежным царстве кветак падземнага пераходу на станцыі Маскоўскай адзіную ружу, якая мяне задаволіла, — колеру чыстага ранішняга сонца, калі яно толькі што развіталася з небасхілам — ані плямачкі на ім, ані хмурынкі!

Пазіраеш на яго — і жывеш!

Касандра! Чыё каханне ты мне напрарочыла!

---

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Не паверу, не паверу, не паверу, што патрэбен нам яшчэ адзін Машэраў. І што на партрэтах для красы, у яго цяпер ужо вусы.

●

Як вёска кінула смаліць? Пачала болей піць. Хочацца курыць — прымаюць, прачнуцца — зноў прымаюць, пра курава і не ўспамінаюць. Наркотык выбіваецца наркотыкам — урачы гэта добра знаюць. Праз два тыдні дыеты ніхто не гаворыць пра сігарэты. Попыт на тытунь змяншаецца, а астатняе вёскай вырабляецца.

●

Усё можа быць наадварот, і няцяжка ўявіць пазіцыю, калі нехта з тварам фотаробата расшуквае міліцыю. А міліцыя не знаходзіцца, міліцыі не да злодзеяў, і людзі пішуць петыцыі: "Расшукваецца міліцыя".

●

Паводле Георгія Іванова. Звілістая рэчка абцякае мне цёплае мястэчка на халодным дне. Цёплае мястэчка, сакавіты глей, толькі закапайся як мага глыбей.

●

Высновам сацыёлагаў які давер, ці можна сацыёлагам верыць? Калі рост насельніцтва залежыць ад памераў кватэр, дык чаму столькі сабак у нашых цесных кватэрах?

●

У камуністаў нягоды і бядоты — моладзь штурмуе апошні рэдут, і Ленін — галкіперам у варотах — паказвае рукою: прыкрыйце кут!

●

Гутарка бацькі з сынам.

— Бацька, вы таксама не паддаваліся ўціску дзяржавы. Пачыналі са школьнай лавы...

— Так, сынку, хоць умовы былі розныя. Мы ўцякалі ў джаз, і нават гэта разглядалася як пагроза. А з чаго пачынаеце вы?

— З вяртання ў родную мову.

— Зважай, сынку, гэта і ёсць аснова!

●

Падвяло прозвішча фантаста Гамолку падчас чарговай камандзіроўкі. Тэлеграму далі на Бюро прапаганды, а яна трапіла ў аддзел прапаганды. І развінулася інтрыга, не горшая за фантастычную кнігу: на вакзале сустракалі Уладзіслава Гамулку. Мо Мікола і прыхлусіў трохі ды такая ўжо была эпоха. Не ўчора гэта было, не пазаўчора, але і не ў часы "Рэвізора".

ЛіМ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| Х. Дунец | (1932-35) |
| І. Гурскі | (1935-41) |
| А. Куляшоў | (1945-46) |
| М. Горцаў | (1947-49) |
| П. Кавалёў | (1949-50) |
| В. Вітка | (1951-57) |
| М. Ткачоў | (1957-59) |
| Я. Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н. Пашкевіч | (1961-69) |
| Л. Прокша | (1969-72) |
| Х. Жычка | (1972-76) |
| А. Асіпенка | (1976-80) |
| А. Жук | (1980-86) |
| А. Вярцінскі | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4400
Нумар падпісаны 15.8.1996 г.
Заказ 4535/Г
П 123456789101112
М 123456789101112